*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 25 лістапада 1988 г. № 47 (3457) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



## *Да 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі*

### ДАРУНКІ МУЗЫЧНАЙ ВОСЕНІ

Наш традыцыйны лістападаўскі фестываль у разгары. У сталіцы рэспублікі, ва ўсіх абласных гарадах, у многіх мястэчках і вёсках прайшло ўжо каля двухсот канцэртаў. Сёлетняя, пятнаццатая «Беларуская музычная восень» праводзіцца пад знакам 70-годдзя ўтварэння БССР і Кампартыі рэспублікі, што надае творчым агледзінам нашых мастацкіх калектываў, салістаў асаблівы сэнс. Амаль усе яны ўдзельнічаюць у фестывалі, выступаюць з абноўленымі праграмамі. Створаны і новыя калектывы: «Белыя росы» (ансамбль танца Гродзенскай абласной філармоніі), мінская эстрадная група «Асарці»...

Для нашых гасцей фестывальныя канцэрты мала чым адрозніваюцца ад звычайных гастроляў — хіба што большай увагай друку, тэлебачання. А вось, напрыклад, сталыя наведвальнікі Беларускай дзяржаўнай філармоніі адчуваюць асаблівую атмасферу: людна ў зале, цеснавата ў фае. У першыя дні мінчане знаёміліся з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Украінскай ССР, яго дырыжорам І. Блажковым і Акадэмічным хорам Латвійскай ССР (мастацкі кіраўнік І. Цэпіціс), слухалі выдатную оперную моладзь — міжнародных лаўрэатаў, сярод якіх быў, дарэчы, саліст ДАВТа БССР М. Рысаў. Слова пра маладых сказала Герой Сацыялістычнай Працы І. Архіпава.

Цяпер мінскія меламаны турбуюцца, як патрапіць паслязаўтра на прэм'еру твора Р. Шчадрына «Запечатленный ангел» (паводле М. Ляскова) — у канцэрце Маскоўскага камернага хору і Акадэмічнага рускага хору СССР пад кіраўніцтвам У. Мініна.

**Наш кар.**



Дзяржаўны акадэмічны хор Латвійскай ССР. Фота Ул. КРУКА.

### СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

**18—19 лістапада адбылася дзесятая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адзінаццатага склікання.**

**Вярхоўны Савет аднагалосна прыняў Закон аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР на 1989 год і пастанову аб ходзе выканання Дзяржаўнага плана на 1988 год, а таксама Закон аб Дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1989 год і пастанову аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту за 1987 год.**

**Вярхоўны Савет аднагалосна прыняў пастанову аб Рэспубліканскай праграме «Здароўе» на перыяд да 2000 года.**

**Была прынята пастанова аб утварэнні Пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах. Старшынёй яе выбраны дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, пісьменнік І. Г. Чыгрынаў. Сярод яе членаў—народны мастак СССР З. І. Азгур, народны пісьменнік БССР В. У. Быкаў, народны артыст СССР І. М. Лучанок, партыйныя, савецкія дзеячы, рабочыя, калгаснікі — дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.**

**Сесія таксама зацвердзіла Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

### СВЯТА ПАЛЕСКАГА КРАЮ

**У Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў адбылася прэс-канферэнцыя з нагоды адкрыцця Дзён народнай творчасці Гомельскай вобласці, прысвечаных 70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі, што праходзяць у Мінску з 21 па 27 лістапада. Начальнік упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкома А. Р. Маісеенка расказаў аб развіцці народнай творчасці ў вобласці, аб тых калектывах, якія прыехалі на свята. Прадстаўнікі з Гомельшчыны, сярод іх дырэктар Гомельскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра Г. С. Шведава, загадчык аддзела культуры Рагачоўскага райвыканкома М. І. Гарбачова, гаварылі пра значэнне культуры ў духоўным жыцці вёскі, аб праблемах культасветработы.**

**Удзел у Днях культуры прымаюць лепшыя самадзейныя калектывы вобласці, сярод якіх народны фальклорны тэатр музычнай камедыі «Жалейка» з Гомеля, народны вакальна-харэаграфічны ансамбль «Гомій» Палаца культуры вытворчага аб'яднання «Гомельпрамбуд», вакальны ансамбль «Ярок» Тураўскага гарадскога Дома культуры Жыткавіцкага раёна і інш.**

**У Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў адкрыты выстаўкі самадзейных мастакоў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і фотамастацтва, асабістых і музейных калекцый «Свет захапленняў». Завершыцца праграма Дзён культуры Гомельшчыны 26 лістапада вялікім святочным канцэртам лепшых самадзейных калектываў вобласці.**

**29 лістапада ў Маскве пачне работу нечарговая дванаццатая сесія Вярхоўнага Савета СССР. На разгляд яе выносяцца важнейшыя пытанні — «Аб задачах удасканалення структуры і дзейнасці органаў дзяржаўнай улады і правасуддзя» і «Аб выбарах народных дэпутатаў СССР».**

**Зараз завяршаецца ўсенароднае абмеркаванне законапраектаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі СССР і аб выбарах народных дэпутатаў.**

**Генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў, выступаючы 15 лістапада на нарадзе ў Арле, падкрэсліў: «Цяпер на парадку дня — рэформа палітычнай сістэмы. Гэта не простае пераразмеркаванне ўлады, не раніроўка пасад і змена шыльдаў. Забеспячэнне моцнага народаўладдзя — *вось галоўная мэта палітычнай рэформы*».**

**Як падкрэслівалася на пасяджэннях Дэпутацкай камісіі Вярхоўнага Савета СССР, мільёны грамадзян ацэньваюць праекты як важныя і канкрэтныя крокі па перабудове прадстаўнічых органаў улады. Аднак пры гэтым выказваецца шмат заўваг, дапаўненняў, прапаноў.**

**Цяпер, калі да прыняцця адказных рашэнняў засталіся лічаныя дні, даводзіцца канстатаваць, што навуковая і творчая інтэлігенцыя нашай рэспублікі не прымала актыўнага ўдзелу ў абмеркаванні законапраектаў.**

**Праўда, 21 лістапада г. г. адбылася падзея, аб якой нельга не сказаць. У рэспубліканскім Доме кіно на сходзе прадстаўнікоў творчых саюзаў праекты законаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі СССР і аб выбарах народных дэпутатаў былі абмеркаваны з удзелам вучоных-прававедаў, юрыстаў, прадстаўнікоў грамадскасці Мінска.**

**У ходзе шматгадзіннай дыскусіі былі выказаны дзесяткі канкрэтных прапаноў, паправак і заўваг, у тым ліку крытычных. Гаварылася, у прыватнасці, што многія палажэнні законапраектаў не адпавядаюць патрабаванням перабудовы і дэмакратызацыі, рашэнням XIX партыйнай канферэнцыі аб стварэнні прававой дзяржавы.**

**Было выказана меркаванне, што новую рэдакцыю Канстытуцыі трэба было б прыняць не на сесіі цяперашняга складу Вярхоўнага Савета СССР, а правесці па гэтым пытанні ўсенародны рэферэндум (галасаванне). А пакуль што варта было б абмежавацца прыняццем часовага палажэння аб выбарах.**

**Гэтыя меркаванні ляглі ў аснову рэзалюцыі, якую ўдзельнікі схода накіравалі ў адрас Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.**

# НАША ЎЛАДА САВЕТАЎ

**Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» гутарыць з першым намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. А. МІКУЛІЧАМ**

**— Законы аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі СССР і аб выбарах народных дэпутатаў СССР патрэбны нам, калі мы сапраўды хочам развіваць сацыялістычную дэмакратыю, удасканальваць нашу палітычную сістэму, зрабіць незваротным рэвалюцыйны працэс перабудовы. Мільёны савецкіх людзей выйшлі са стану палітычнай апатыі і іх ужо не могуць задаволіць многія нашы законы, якія, можна сказаць, скампраметавалі сябе сваёй расплывістасцю, неабавязковасцю, неэфектыўнасцю, тым, што, фактычна, патуралі многім негатыўным з'явам у нашым жыцці.**

— З гэтым нельга не пагадзіцца. Зараз, у час перабудовы, нам трэба шукаць адказы на многія сур'ёзныя пытанні, звязаныя з недасканаласцю нашай палітычнай сістэмы. Як вы ведаеце, у дакументах XIX Усесаюзнай партканферэнцыі гаварылася пра рэформу палітычнай сістэмы, пачаткам ажыццяўлення якой і з'яўляюцца праекты законаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі СССР і аб выбарах народных дэпутатаў СССР, якія былі вынесены на ўсенароднае абмеркаванне. Як вядома, сутнасць рэформы — размежаванне функцый партыйных і дзяржаўных органаў, вяртанне да ленінскай практыкі ўмацавання і павышэння ролі Саветаў, аб'яднання вакол іх усіх грамадскіх арганізацый, усіх грамадзян.

Прадстаіць адрэгуляваць механізм дэмакратычнага выяўлення, фарміравання і захавання інтарэсаў усіх класаў і сацыяльных груп грамадства. На варце гэтых інтарэсаў будуць стаяць не толькі народныя дэпутаты, абраныя грамадзянамі па выбарчых акругах, а і дэпутаты, якія будуць прадстаўляць грамадскія арганізацыі: КПСС, прафсаюзы, ВЛКСМ, аб'яднанні кааператараў, жанчын, ветэранаў вайны і працы, навуковых работнікаў, творчыя саюзы і інш.

Выбары народных дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый будуць, згодна з праектам законаў, праводзіцца на іх з'ездах, канферэнцыях, або пленумах іх агульнасаюзных ці рэспубліканскіх органаў.

**— Тут мне, Уладзімір Андрэевіч, не ўсё зразумела. Ці не атрымаецца так, што будзе парушаны асноўны прынцып дэмакратыі: адзін выбаршчык — адзін голас? Дагэтуль адзін і той жа выбаршчык не мог галасаваць, скажам, адразу па дзвюх выбарчых акругах. А цяпер? Выбаршчык, калі ён, напрыклад, аднчасова з'яўяецца пісьменнікам, вучоным і членам ЦК Кампартыі рэспублікі, зможа галасаваць некалькі разоў: як звычайны грамадзянін па месцы жыхарства, у Саюзе пісьменнікаў, у Акадэміі навук, у Цэнтральным Камітэце партыі. Такім чынам, адзін чалавек будзе мець чатыры галасы, а другі толькі адзін. Дзе ж тут роўнасць!**

— Думаю, што ніякага парушэння дэмакратыі не будзе. Трэба мець на ўвазе, што народныя дэпутаты ад грамадскіх арганізацый складуць толькі трэцюю частку ад усёй колькасці дэпутатаў З'езда народных дэпутатаў СССР, і яны будуць больш поўна выказваць інтарэсы ўсіх пластоў нашага грамадства.

**— Дэпутацкі корпус. Не сакрэт, што сярод дэпутатаў Вярхоўных Саветаў саюзных рэспублік і СССР ёсць нямала людзей, якія не адпавядаюць паняццю — грамадскі дзеяч, калі, вядома, да гэтага вызначэння паставіцца з усёй сур'ёзнасцю. Ім не хапае ведаў, у іх вузкі палітычны кругагляд, часта не хапае ўмення шырока мысліць. Я далёкі ад думкі вінаваціць у гэтым саміх дэпутатаў. Справа ў тым, што ў нас часта людзі атрымліваюць дэпутацкае званне толькі за высокія вытворчыя паказчыкі — выканаў тры гадавыя заданні, атрымаў высокі ўраджай, надаіла шмат малака і т. п.**

**На газетных фотаздымках, на кадрах кіна- і тэлехронікі, прысвечаных рабоце сесій Вярхоўных Саветаў, адразу пазнаеш гэтых людзей па абветраных, напружаных, крыху разгубленых тварах. Яны заўсёды дружна, навыперадкі, нібы баючыся спазніцца, цягнуць угору рукі ў час галасавання.**

**Нямала ёсць дэпутатаў, якія набылі гэтую годнасць, дзякуючы таму, што займаюць высокую пасаду, уваходзяць у пэўную наменклатуру.**

**Могуць, праўда, сказаць: за іх жа галасаваў народ, яны прайшлі ў дэпутаты амаль *аднагалосна*. Сапраўды так. Але якая цана гэтаму аднагалоссю, калі людзі на выбарчым участку апускаюць у урну бюлетэнь, нават не зазірнуўшы ў яго.**

— Пытанні, якія вы закранаеце, сапраўды вельмі сур'ёзныя. Але ж рэформа палітычнай сістэмы акурат і накіравана на тое, каб дэмакратызаваць працэс выбараў, павысіць аўтарытэт народнага дэпутата. Я сам не адно скліканне быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і ведаю па ўласным вопыце, які гэта нялёгкі абавязак, якога напружання сіл патрабуе, асабліва калі ты яшчэ член Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета, дзе ідзе вялікая аналітычная работа. Кожны дэпутат павінен рэгулярна трымаць справаздачу перад сваімі выбаршчыкамі, выконваць іх наказы, а гэта досыць складаная справа.

Вы кажаце, што пры вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета часта кіруюцца толькі іх вытворчымі паказчыкамі. Відаць, бывае і такое. Але, як правіла, улічваецца грамадзянская актыўнасць чалавека, яго падкаванасць, скажам, у пытаннях сельскагаспадарчай вытворчасці, калі гэта, напрыклад, сельскі працаўнік. Вось дадзеныя па Вярхоўным Савеце БССР. У яго цяперашнім складзе 485 дэпутатаў, з якіх 53,4 працэнта маюць вышэйшую адукацыю, астатнія — сярэднюю. Каб упэўніцца ў здольнасці большасці дэпутатаў мысліць па-дзяржаўнаму, трэба паслухаць іх выступленні на сесіях Вярхоўнага Савета, на пасяджэннях Прэзідыума, у пастаянных камісіях, у час справаздач перад выбаршчыкамі. Ёсць сярод дэпутатаў — *рабочых, сельскіх працаўнікоў* — сапраўдныя самародкі, з аналітычным мысленнем, здольнасцю адразу ўлоўліваць сутнасць пытання, знаходзіць правільнае рашэнне. Пагаварыце з дэпутатамі — мінскімі рабочымі А. Шарановічам і Я. Шуляком — і вы ўбачыце, якія гэта прынцыповыя, разумныя людзі. Няма лепшых абаронцаў інтарэсаў рабочага класа, чым яны, і рабочыя гэта ведаюць.

Цяпер пра выбарчыя кампаніі. Так, на жаль, яны мелі шмат заганаў, часта ператвараліся ў чыста фармальны акт.

**— Так адбываецца яшчэ, відаць, і таму, што на выбарах няма, фактычна, выбару — у *бюлетэні стаіць прозвішча* толькі аднаго чалавека, якога большасць выбаршчыкаў ніколі не бачыла...**

— Згодна з праектамі законаў, пра якія мы з вамі вядзём гаворку, у выбарчыя бюлетэні будзе ўключацца, *як правіла, дэпутатаў больш, чым* ёсць мандатаў. Гэтым будзе забяспечана свабода выбару. Наогул, пры правядзенні выбараў народных дэпутатаў колькасць кандыдатаў у дэпутаты не абмяжоўваецца. Кожны ўдзельнік перадвыбарчага сходу можа прапаноўваць для абмеркавання любую кандыдатуру, у тым ліку і сваю.

**— Сваю? Нават насуперак думцы начальства? Але ж яму спатрэбіцца такая ж падтрымка, у тым ліку і матэрыяльная, для правядзення перадвыбарчай кампаніі, як і афіцыйна апрабіраваным кандыдатам.**

— Прэцэдэнты такія ўжо ёсць. А хіба не звычайнай з'явай сталі ў нас выбары дырэктараў прадпрыемстваў, навуковых і навучальных інстытутаў, кіраўнікоў партыйных і савецкіх органаў, калі людзі самі прапаноўвалі свае кандыдатуры на гэтыя пасады?

**— Чарговыя асеннія і вясеннія сесіі Вярхоўнага Савета СССР, згодна з праектамі новых законаў, як правіла, будуць працягвацца тры-чатыры месяцы. У той жа час у артыкуле 104 гаворыцца, што дэпутат ажыццяўляе свае паўнамоцтвы, не парываючы з вытворчай або службовай дзейнасцю. Дык скажыце, Уладзімір Андрэевіч, якая карысць будзе, напрыклад, ад дэпутата-дырэктара завода таму заводу, калі ён будзе адсутнічаць тут тры чвэрці года?**

— Так, на час пасяджэнняў З'езда народных дэпутатаў, сесіі Вярхоўнага Савета і мясцовага Савета, а таксама для ажыццяўлення дэпутацкіх паўнамоцтваў у іншых выпадках, прадугледжаных праектамі законаў, дэпутат вызваляецца ад выканання вытворчых або службовых абавязкаў з захаваннем сярэдняга заробку па месцы пастаяннай працы, які выплачваецца за кошт дзяржаўных бюджэтных сродкаў.

Робіцца ўсё гэта для прафесіяналізацыі дэпутатаў Вярхоўнага Савета, каб яны не наскокам, не ў адзін прыём вывучалі складаныя палітычныя і эканамічныя пытанні, як гэта робіцца зараз, калі сесія доўжыцца, як правіла, усяго два дні.

**— Мо, нарэшце, знікне на сесіях Вярхоўнага Савета тое сумна славутае аднагалоссе па ўсіх пытаннях парадку дня? Гэта ўжо стала «притчей во языцех». Бывае, што пры адным і тым жа складзе Вярхоўнага Савета на розных сесіях аднагалосна прымаюць рашэнні, якія пярэчаць і адно аднаму, і наогул інтарэсам краіны.**

— Вы аперыруеце старымі фактамі. На апошняй сесіі Вярхоўнага Савета СССР, у якой я прымаў удзел, некалькі дэпутатаў выступілі супраць зацвярджэння Указаў «Аб парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый у СССР» і «Аб абавязках і правах унутраных войск МУС СССР пры ахове грамадскага парадку», матывуючы сваю пазіцыю іх недасканаласцю. Думаю, што спрэчкі, дыскусіі, барацьба думак стануць арганічнай уласцівасцю сесій Вярхоўнага Савета, наогул усіх Саветаў.

**— Існуючая палітычная сістэма менш за ўсё была прыстасавана для арганізацыі грамадскага жыцця на дэмакратычных пачатках. Саветы апынуліся, фактычна, у становішчы, калі ўлада іх стала малаэфектыўнай. Што трэба зрабіць, Уладзімір Андрэевіч, каб вярнуць уладу Саветам, паставіўшы іх над іншымі дзяржаўнымі інстытутамі? Як павінна змяніцца сама арганізацыя работы Саветаў усіх ступеняў, каб заваяваць трывалы аўтарытэт у народа?**

— Канстытуцыйнае паняцце Саветаў значна пашыраецца. Уводзяцца новыя звенні З'езд народных дэпутатаў, які зойме вярхоўнае месца ў сістэме Саветаў, а таксама З'езды народных дэпутатаў саюзных і аўтаномных рэспублік. Узмацняюцца кантрольныя функцыі Саветаў, бо ў іх склад, як правіла, не будуць выбірацца асобы, якія займаюць пасады ў органах, падсправаздачных Саветам.

# ТРЭБА ЎДАКЛАДНІЦЬ ПАЎНАМОЦТВЫ

Маючае адбыцца прыняцце законаў — важнейшы крок на шляху сфармуляванага XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй удасканалення палітычнай сістэмы савецкага грамадства. Азнаямленне з праектам Закона аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) СССР дазваляе зрабіць шэраг заўваг.

На мой погляд, няма дакладнасці ў палажэннях арт. 110, што датычаць склікання нечарговых пасяджэнняў З'езда народных дэпутатаў. Ініцыятыва ў гэтым пытанні прадастаўлена органам, падпарадкаваным З'езду, саюзнай рэспубліцы, а таксама «не менш за адну пятую народных дэпутатаў СССР». Незразумела, як гэтыя 450 (з 2250) дэпутатаў, якія жывуць у розных рэгіёнах краіны, змогуць карыстацца гэтым правам.

У большай дакладнасці мае патрэбу арт. 91. У ім гаворыцца, што мясцовыя Саветы «фарміруюць свае прэзідыумы». Слова «фарміруюць» мае розны сэнс. Закон жа не павінен пакідаць магчымасцей для розных тлумачэнняў. Таму павінна быць указана, што мясцовы Савет выбірае Прэзідыум. Тут жа трэба ўстанавіць кворум, парадак галасавання, змены складу. Відаць, выбары прэзідыума, змены яго складу павінны праводзіцца тайным галасаваннем.

Трэба арт. 94 дапоўніць указаннем, што пытанні галоснага характару дзейнасці Саветаў вызначаюцца законам аб галоснасці работы Саветаў.

У арт. 150 трэба ўказаць, што выканком непасрэдна падсправаздачны Прэзідыуму мясцовага Савета.

Мае патрэбу ў дапаўненні і палажэнне арт. 149 аб Прэзідыуме мясцовага Савета. У артыкуле гаворыцца, што Прэзідыум «арганізуе» работу мясцовага Савета. Слова «арганізуе», узятае з грамадска-палітычнага лексікону, досыць няпэўна вызначае функцыі Прэзідыума. Пра іх трэба сказаць больш поўна. На Прэзідыум павінны быць ускладзены падрыхтоўка праекта перспектыўнага і гадавога планаў работы Савета, правядзенне кантролю за падрыхтоўкай сесіі і рэалізацыяй яе рашэнняў, кантроль за работай пастаянных і часовых камісій, выканкома і яго апарату, скліканне нечарговай сесіі мясцовага Савета, арганізацыя работы па вывучэнні грамадскай думкі, змест і парадак справаздач перад Саветам і насельніцтвам і інш.

Няма поўнай дакладнасці і ў палажэнні арт. 112, які прадугледжвае, што З'езд штогод абнаўляе да адной пятай складу абедзвюх палат Вярхоўнага Савета СССР. У аснове гэтага палажэння — глыбока дэмакратычная ідэя аб бесперапынным абнаўленні складу вышэйшага органа дзяржаўнай улады краіны. Аднак фармуліроўка гэтай ідэі не паслядоўная. Таму слова «да» павінна быць знята. Проста — абнаўляецца адна пятая складу дэпутатаў.

У арт. 130 Праекта замацоўваецца падсправаздачнасць Савета Міністраў З'езду і Вярхоўнаму Савету. Аднак на яго ўскладаецца абавязак трымаць справаздачу толькі перад Вярхоўным Саветам. Відавочна, ён павінен быць абавязаны трымаць справаздачу і перад З'ездам.

Немалаважнае значэнне мае і перыядычнасць справаздач. У Праекце гаворыцца пра тое, што Савет Міністраў «рэгулярна трымае справаздачу». Аналагічная норма змяшчаецца і ў арт. 130 Канстытуцыі СССР 1977 г. На практыцы ж яна не выконвалася. Таму мэтазгодна ўказаць у Канстытуцыі СССР, што Савет Міністраў СССР абавязаны даваць справаздачу пра сваю дзейнасць на кожным па-

Уся паўната заканадаўчых паўнамоцтваў цяпер будзе сканцэнтравана ў руках самога З'езда народных дэпутатаў і Вярхоўнага Савета СССР. Гэта буйны крок наперад у дэмакратычным развіцці краіны, бо заканадаўчыя функцыі цяпер будуць поўнасцю ажыццяўляцца органамі калектыўнага кіраўніцтва. Дзейнасць Саветаў народных дэпутатаў будзе грунтавацца на аснове калектыўнага, свабоднага, дзелавога абмеркавання і вырашэння пытанняў, галоснасці, рэгулярнай справаздачнасці выканаўчых і распарадчых органаў. Узрасце роля сесій Саветаў, пастаянных камісій (дарэчы, у нашай рэспубліцы работа іх апошнім часам істотна актывізавалася). Думаю, адыдзе ў нябыт цяперашняя практыка, калі апарат, выканком падмяняюць прадстаўнічы орган, якім з'яўляецца Савет. Толькі ён, Савет, толькі дэпутаты павінны вырашаць карэнныя пытанні дзяржаўнага жыцця і кантраляваць дзейнасць органаў кіравання.

**— Уводзіцца новая, так сказаць, інстанцыя — Камітэт канстытуцыйнага нагляду СССР. У яго будуць функцыі, падобныя на функцыі Вярхоўных судоў у некаторых заходніх краінах?**

— Увогуле — не. Камітэту канстытуцыйнага нагляду ў сістэме вышэйшых органаў улады будзе належаць выключна важнае месца. Ён будзе выбірацца З'ездам народных дэпутатаў тэрмінам на 10 гадоў, але не з ліку дэпутатаў. Чаму? Таму што камітэт заклікаными забяспечваць кантроль за тым, каб законы і пастановы ўрада, нарматыўныя акты іншых дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый адпавядалі Канстытуцыі. Трэба асабліва падкрэсліць, што з'яўленне такога незалежнага органа, як Камітэт канстытуцыйнага нагляду, стане яшчэ адной перашкодай на шляху магчымых заканадаўчых памылак, з'явіцца важнай вяхой у стварэнні сацыялістычнай прававой дзяржавы.

**— Як прайшло абмеркаванне праектаў законаў у рэспубліцы?**

— Вельмі актыўна. Па праектах законаў грамадзянамі, працоўнымі калектывамі і грамадскімі арганізацыямі Беларусі ўнесена каля чатырох тысяч прапаноў і заўваг, якія былі разгледжаны ў Пастаяннай камісіі заканадаўчых меркаванняў Вярхоўнага Савета БССР, а таксама на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Прапановы і заўвагі працоўных рэспублікі па праектах законаў абагулены і накіраваны ў Вярхоўны Савет СССР.

**— Ці будуць прыняты законы аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР і аб выбарах народных дэпутатаў БССР?**

— Так, абавязкова. У гэтым кірунку вядзецца актыўная работа.

**— Дзякуй, Уладзімір Андрэевіч, за змястоўную гутарку.**

**Гутарыў М. ЗАМСКІ.**

---

сяджэнні з'езда і на кожнай сесіі Вярхоўнага Савета СССР.

Намечаны працяг тэрміну паўнамоцтваў мясцовых Саветаў да пяці гадоў можа мець як станоўчыя, так і негатыўныя вынікі. Трэба мець на ўвазе, што захаванне ў складзе дэпутатаў мясцовага Савета 15—20 працэнтаў дэпутатаў на большы тэрмін абсалютна неабходна для падтрымання пераемнасці ў рабоце пастаянных камісій. Значыць, часткі дэпутатаў прадстаіць працаваць у Савеце дзесяць гадоў. Я не кажу ўжо пра натуральную стомленасць (яна назіраецца і ў цяперашні час ў канцы тэрміну паўнамоцтваў Савета). Нельга не ўлічваць і таго, што за дзесяць гадоў у жыцці дэпутата могуць адбыцца розныя змены, якія абцяжараць ці зробяць немагчымай яго работу ў Савеце.

**А. ЛЕЙЗЕРАЎ,**
**доктар юрыдычных навук.**

---

*«Круглы стол» «ЛіМа»*

# НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...

**Мы з'яўляемся сведкамі небывалай з'явы: працы гісторыкаў, «забытыя» творы класікаў і творы пісьменнікаў, чые імёны замоўчваліся, па сваёй папулярнасці пераўзыходзяць сёння нават прыгодніцкую і дэтэктыўную літаратуру.**

**Так заўсёды бывае на пераломных рубяжах гісторыі. Пройдзены адзін этап у развіцці грамадства, наперадзе — новы. Ёсць аб'ектыўная патрэба азірнуцца назад, усвядоміць пройдзены шлях, зрабіць высновы. Пераломны час перажывае і наша літаратура. Ад таго, якія высновы мы зробім сёння, залежыць яе заўтрашні дзень.**

**Новыя публікацыі, увядзенне ў кантэкст літаратурнага жыцця ўсё большай колькасці імёнаў і твораў ставіць перад гісторыка-літаратурнай навукай усё новыя задачы. Менавіта дзеля ўсведамлення новых праблем і быў праведзены «круглы стол» у рэдакцыі нашага штотыднёвіка. Яго адкрыла загадчык аддзела, член рэдакцыі «ЛіМа» Галіна Каржанеўская. У гаворцы прынялі ўдзел: крытыкі і літаратуразнаўцы Уладзімір Калеснік, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Серафім Андраюк, Анатоль Сідарэвіч, Янка Саламевіч, Міхась Тычына, Ігар Жук, пісьменнікі Барыс Сачанка і Кастусь Тарасаў. Вёў пасяджэнне старшыня секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР, член рэдкалегіі «ЛіМа» Нічыпар Пашкевіч.**

**Н. Пашкевіч.** Пачынаючы размову, хацелася б сказаць вось што. Тэма яе ўвогуле вельмі шырокая, бадай што бязмежная, у ёй мноства самых розных аспектаў. Захапіўшыся, можна загрувасціць яе прыватнымі фактамі і меркаваннямі, няхай сабе і цікавымі самі па сабе. І добра будзе, калі, улічваючы «праграмны» характар гэтай размовы, мы пры ўсёй незапраграмаванасці думкі, пры ўсёй свабодзе выбару прадмета выказванняў у канчатковым выніку засяродзімся на нейкіх самых важных арыенцірах. Дзякуючы жыватворным абнаўленчым працэсам, якія адбываюцца сёння ў савецкім грамадстве, стварыліся, па-мойму, як ніколі спрыяльныя ўмовы для таго, каб рэальна марыць аб праўдзівай, аб'ектыўнай, пазбаўленай рознага роду вульгарызатарскіх абмежаванняў гісторыі і культуры нашай роднай зямлі. І гэтыя ўмовы мы павінны выкарыстаць з найбольшым плёнам. Што для гэтага можна і трэба зрабіць неадкладна? Якія сёння паўстаюць праблемы — праблемы і тэарэтычнага, і метадалагічнага, і практычна-арганізацыйнага характару? Якія перашкоды трэба адолець? У якой ступені нам яшчэ замінае інерцыя нашага ўчарашняга — тэарэтычна і палітычна перастраховачнага — дня? І ці няма недаацэнкі і абыякавасці да справы з боку людзей, ад якіх залежыць яе арганізацыйнае і матэрыяльнае забеспячэнне? Якія нашы магчымасці ў выданні і папулярызацыі адкрытых старонак спадчыны? Склад удзельнікаў «круглага стала», па-мойму, дастаткова прадстаўнічы і дасведчаны, каб выявіць выразную карціну таго, як выглядае сёння працэс адраджэння літаратурнай спадчыны на ўсю гістарычную глыбіню, паставіць, а то і высветліць многія актуальныя і балючыя пытанні.

І такое спадзяванне. Асуджаючы згубную шкоду гістарычнага бяспамяцтва, мы будзем яшчэ больш аб'ектыўнымі і справядлівымі, калі самі не станем забываць, не аддадзім належнае ўсяму таму добраму і плённаму, што ўжо дагэтуль зроблена нашым літаратуразнаўствам, краязнаўствам, нашымі вучонымі-прафесіяналамі і, так сказаць, даследчыкамі-аматарамі. Сёння, вядома ж, нам не трэба пачынаць з «нулявога цыкла». На шмат якіх напрамках вялася ўдумлівая, наватарская праца. Успомнім хаця б чатырохтомнае, а потым двухтомнае (на рускай мове) акадэмічныя калектыўныя даследаванні гісторыі беларускай літаратуры ад старажытнасці да нашых дзён, якія ўвабралі ў сябе дасягненні нашай даследчыцкай думкі на яе ўздыме пасля XX з'езда КПСС. А колькі новых, датуль невядомых старонак даўняга і больш блізкага літаратурнага мінулага ажыло і адкрылася нам у кнігах, артыкулах і публікацыях асобных даследчыкаў — перш за ўсё Адама Мальдзіса, Алеся Адамовіча, Уладзіміра Калесніка, Алега Лойкі, Алеся Бачылы, Віктара Каваленкі, Барыса Сачанкі, Міхася Мушынскага, Уладзіміра Конана, Уладзіміра Казберука...

Словам, ёсць у нас немалы станоўчы вопыт пошукаў, асваення і ўдумлівага асэнсавання спадчыны, яго трэба трымаць на ўзбраенні. Але ў святле новых патрэб і магчымасцей зробленае можна, напэўна, разглядаць і толькі як пачатак справы, маштабы якой мы, магчыма, сёння да канца сабе і не ўяўляем. Хто ведае, што хаваюць ад нас гістарычныя далячыні часу ды многія не разведаныя, а некаторыя пакуль па розных прычынах і не даступныя архівы?

Калі ласка, хто праявіць ініцыятыву і возьме першае слова?

**А. Сідарэвіч.** У вывучэнні спадчыны можна пабачыць колькі этапаў. Першы — ад нашаніўскага перыяду да 29 года. Менавіта ў 29-м для нас пачаўся «вялікі пералом», пра што засведчыў у сваёй «Аповесці для сябе» Барыс Мікуліч. У літаратуры і мастацтве лявацкая тэндэнцыя атрымала верх, і, натуральна, усё тое, што не адпавядала ёй, ішло на глум. Не будзем гаварыць пра Заходнюю Беларусь. Там усё ж даследаванні працягваліся. Былі гадавікі, часопісы «Калоссе» і «Беларускі летапіс». Пачалася вайна — процістаянне славянства і германскага духу. І тут спатрэбілася сёе-тое вярнуць, паказаць прэстыж славянства, яго даробак і ўклад у еўрапейскую культуру, і дзеля гэтага палітычнага, тымчасовага інтарэсу былі ўваскрэшаны Скарына, Каліноўскі. Трохі звярнуліся да спадчыны, да нашай нацыянальнай гісторыі.

Трэці перыяд актыўнага вяртання спадчыны пачаўся пасля XX з'езда, калі пачалі вяртаць імёны маладнякоўцаў, узвышэнцаў, членаў «Праблеску» і іншых аб'яднанняў. Да нас вярнуліся Чарот, Цішка Гартны, Галавач — адкрыўся цэлы свет. Маё пакаленне ўваходзіла ў жыццё, маючы на руках кнігі тых, чые творы былі з 30-ых гг. забаронены. Барацьба за Гарэцкага, дарэчы, цягнулася да 1972 года, пакуль не выйшаў яго двухтомнік. Можна сказаць, што яна працягваецца і сёння. Бо і ў гэты перыяд, які цягнуўся недзе ад сярэдзіны 50-ых гг. да канца 60-ых, мы не пазбавіліся старых дагматычных схем. Шэраг пісьменнікаў заставаўся за бортам, як і многія творы Купалы, Коласа... Зараз пачынаецца чарговы перыяд у вяртанні спадчыны.

**Рэпліка:** Можа, і апошні?

**А. Сідарэвіч.** Я спадзяюся, што нам не спатрэбіцца адкрываць цэлыя мацерыкі, цэлыя плеяды імён. Пазбаўляючыся вульгарнага сацыялагізму, дагматызму, невуцтва, гуманізаваўшы грамадства, зразумеўшы, што сацыялізм гэта не толькі тое, чаму вучыў нас у кароткім курсе І. В. Сталін, што сацыялізм як вучэнне і сацыяльная сістэма мае многа мадыфікацый, мы павінны зразумець, што і сацыяльная думка на Беларусі таксама была прадстаўлена багата якімі плынямі. Навіна, Власт і іншыя — яны таксама па-свойму былі барацьбітамі за народную долю і волю. Нацыяналістамі яны не былі, як зразумелі мы сёння. У Беларусі сацыялістычны рух меў, як і па ўсім свеце, шмат плыняў. Кожны па-свойму хацеў свайму народу дабра. Па-новаму мы зірнулі і на тых, чые творы былі кананізаваны, на Купалу і Коласа. Мы прызнаём мастацкую вартасць твораў і тых пісьменнікаў, якія не былі сацыялістамі, напрыклад, былых хадэкаў, скажам, Казіміра Сваяка і Андрэя Зязюлі. Што датычыць вяртання старэйшай спадчыны — да 19 ст., то ўся справа не ў светапоглядных перагародках, як у выпадку з нашаніўцамі, а ў падрыхтоўцы кадраў. У нас амаль няма спецыялістаў па лаціне.

**А. Мальдзіс, доктар філалагічных навук.** Мы адзіны славянскі народ, за выключэннем лужыцкіх сербаў, які не мае аддзялення славістыкі ні ў адным з універсітэтаў.

**А. Сідарэвіч.** Мы дажыліся да таго, што ў нас няма каму перакладаць творы нашых землякоў, якія пісалі па-польску. На жаль, інстытут замежных моў не рыхтуе кадраў для нашай культуры.

**Н. Пашкевіч.** Як бачыце, наконт мацерыкоў вы супярэчыце самі сабе. Спачатку сказалі, што нам не спатрэбіцца іх адкрываць, а яны ўсё-ткі вырысоўваюцца.

**А. Мальдзіс.** Учора я глядзеў фільм Абуладзе «Дрэва жадання», і мяне літаральна паласнула адна фраза: «Забыццё мінулага—першая прыкмета ўпадку нацыі». Падумалася, што гэта вельмі і вельмі стасуецца да нас. У час, калі адзначаўся юбілей Кастуся Каліноўскага, давялося мне быць у Маскве, жыў я ў гасцініцы пры прадстаўніцтве БССР. І вось снедаю за сталом у буфеце, маскоўскае радыё перадае пра тое, што ў Беларусі святкуюць юбілей К. Каліноўскага. Людзі, якія сядзелі побач са мной — два з іх дэпутацкімі значкамі, салiднага выгляду і салідных пасад, зацікавіліся: «А кто это такой?» За сталом аказаўся рускі, які працуе ў нашай рэспубліцы, ён і растлумачыў папулярна, хто такі Каліноўскі. Ідзе далей гаворка. Кажу, што скора ў нас юбілей і Скарыны... Зноў ідзе глыбакадумнае разважанне на тэму «кто бы это мог быть». Прыкладаў элементарнага няведання сярод беларускай збюракратызаванай інтэлігенцыі можна прывесці безліч. Ім наша спадчына не баліць. Яны нашых мацерыкоў не бачылі і не бачаць.

**Рэпліка:** І не жадаюць бачыць.

**В. Рагойша.** Дарэчы, яшчэ працягваецца юбілейны год, а мы, па сутнасці, не адзначылі як след 150-годдзе Кастуся Каліноўскага. Не было ні агульнагарадскога, ні рэспубліканскага вечара, ні тым больш вечара ў Калоннай зале Дома саюзаў у Маскве. А гэта ж такая дата!

**Н. Пашкевіч.** Калі я працаваў галоўным рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм», колькі гадоў давялося званіць ва ўсе званы, што трэба зрабіць мастацкі фільм пра Каліноўскага. І нічога не ўдалося дабіцца. Як быццам бы ніхто і не перашкаджаў: рабіце, маўляў. Але ж і належнай зацікаўленасці, дапамогі, настойлівасці з боку кіруючых органаў не было. Мусіць, некаму фігура Каліноўскага ўсё ж здаецца палітычна «нялёгкай», «спрэчнай».

**А. Мальдзіс.** Каліноўскага баяцца, бо не ведаюць. І не ведаюць, таму што баяцца. Але я хачу вярнуцца да тых кантынентаў, якія застаюцца па-за нашай увагай. Чалавеку патрэбен не толькі хлеб, але і гароднiна, садавіна — солі, вітамі-

(Працяг на стар. 6—7).

 

# НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...

(Пачатак на стар. 5).

ны і г. д. Хлебам стала для нас магістральная — рэалістычная, дэмакратычная плынь, якую мы нядрэнна ведаем. Але ж былі і іншыя плыні. Мы да гэтага часу па-сапраўднаму не асэнсавалі мастацкі вопыт Кіеўскай Русі, як гэта зрабілі рускія, украінскія даследчыкі. Ва ўсім свеце высока цэняць Кірылу Тураўскага, яго прамовы лічацца верхам красамоўства, а мы па сутнасці не ведаем іх тэкстаў, не даследавалі паэтыку. Наступны значны мацярык — культура феадальных вярхоў. Яна фактычна адкінута як чужая, небеларуская. Як быццам мы ўвесь час толькі і пазычалі гэтую культуру ў суседніх народаў. Далей — мацярык рэлігійнай культуры. Вось зараз у інстытуце мы здаём у выдавецтва «Навука і тэхніка» прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Скарыны — гэта пераважна тэксты да канфесійных выданняў.

Для сучаснасці вельмі значным быў бы вопыт і Рэнесанса, і барока... Можа быць, гэта менш тычыцца класіцызму, таму што ён карыстаўся нарматыўнай эстэтыкай. Класіцызм, на мой погляд, больш уплываў на горшыя творы сацрэалізму. Адмаўленнем класіцызму быў рамантызм, і яго вопыт для нас сёння надзвычай плённы. Рамантызм, які вельмі настойліва звярнуўся да народнага жыцця, да народнай культуры, нацыянальнага пачатку, у нас доўгі час лічыўся нечым непаўнацэнным і нават заганным. Успомнім, як доўга і са злосцю адмаўляў Караткевіч сваю прыналежнасць да рамантыкаў. Перачытваў нядаўна яго запісныя кніжкі, там ён даказвае, што ён нічога не выдумляе, што піша ўсё так, як было ў рэальнасці. А ён жа быў сапраўдным рамантыкам па тыпу мастацкага мыслення!

**У. Калеснік, прафесар** (Брэст). «Я так бачу» — любімы яго выраз.

**А. Мальдзіс.** І яшчэ адзін мацярык, які пачаў адкрываць для нас Барыс Сачанка, — эміграцыя. У апошнім нумары «Книжного обозрения» я прачытаў артыкул Паэля Карпа, у якім ён піша пра рускую эміграцкую літаратуру. «Все это, между тем, единая русская литература». Адзіная, зразумела, і ўкраінская, і літоўская, і г. д. А мы адсякаем гэтую частку нашай мастацкай спадчыны. Іншая справа, што трэба даваць дакладныя характарыстыкі, як гэта і робіць Б. Сачанка. Ён не навешвае ярлыкоў, ён даследуе. І нарэшце — мадэрнізм, ён жа быў на Беларусі — і ў мастацтве, і ў архітэктуры, і ў літаратуры. А мы не падрыхтаваны да яго ўспрымання, пра што сведчыць спрэчка вакол Шагала. Калі пачытаем некаторыя публікацыі ва ўсесаюзнай прэсе, дык падумаем, што Шагал сёння — асноўнае для Беларусі. Так, яго трэба ўшанаваць, хай і музей будзе ў Віцебску, але ўшанаваць, суадносячы са шкалой нашых нацыянальных каштоўнасцей.

Адкрыццяў можна чакаць і ў літаратуры 20—30-х гадоў. Не думаю, каб прапала ўсё тое, што было канфіскавана ў час арыштаў.

Некалькі слоў пра тое, што робіцца для расследавання нашай спадчыны ў аддзеле дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры АН БССР, якім я кірую. Каб напісаць новую гісторыю дакастрычніцкага перыяду, нам неабходна зрабіць некалькі спраў. Першая: выдаць тэксты — старажытную беларускую прозу, паэзію, драматургію, летапісы, мемуары. Другое: даследаваць старажытную літаратуру на кірунку метад, стыль, напрамак, і тады толькі мы змаглі б выдаць гісторыю на новым узроўні. Мы зараз канчаем аўтарскую работу над трэцім томам «Бібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў». У ім мы будзем даваць, з адпаведнымі ацэнкамі, усіх пісьменнікаў, а не выбарачна. Даведнікі не павінны быць толькі пантэонам для заслужаных.

**У. Калеснік.** Мне здаецца, што нам варта пагаварыць па пытанні рэсацыялізацыі спадчыны. Нам важна не толькі, каб вучоныя ведалі яе і ў тоўстых, маладаступных тамах публікавалі. Нам трэба прыцягнуць да нашай спадчыны шырокія чытацкія масы. Моладзь нашу, якая згаладалася па гісторыі. Без мінулага няма асобы. Няўжо наша спадчына такая сумная, такая нудлівая, што трэба стравіць дзесяткі год, каб у яе ўнікнуць! Летапісы чытаеш, літоўскую хроніку асабліва — як раман, не адарвешся. Гарэцкі разумеў гэта. Варта і сёння рабіць стаўку на папулярныя выданні — з харошымі каментарыямі, з уступамі, нават з нарысамі пра людзей, падзеі. Не выкарыстоўваем мы ў поўнай меры і факсімільныя выданні — яны ж танныя. Калі ж гаварыць канкрэтна пра імёны і творы, то час нам падумаць пра перавыданне твораў Карскага. Незалежны чалавек, вучоны, мысліцель, праўдалюбец!..

**К. Тарасаў.** Вы тут гаворыце пра перавыданні. Каб перавыдаваць, патрэбна выдавецтва. Ні «Навука і тэхніка», ні «Універсітэцкае» гэтым не займаюцца. Хто зробіць каментарыі для летапісаў? У нас жа спецыялістаў па пальцах пералічыш.

**Н. Пашкевіч.** Усім нам, вядома, хацелася б неадкладна мець у сваёй бібліятэцы выданні спадчыны. Але ж будзем рэалістамі. Імгненна гэта не зробіш. Наш жа сённяшні клопат — пераканаць, што яе трэба выдаваць і папулярызаваць. Як справядліва заўважыў украінскі даследчык Уладзімір Дзюба ў «Вопросах литературы», чытачу мала ведаць спіс рэабілітаваных пісьменнікаў — яму патрэбны іх творы!

**К. Тарасаў.** Дык што, можа, перавыдаць артыкул Цішкі Гартнага «Нацыянал-дэмакраты за працай»? Баюся, што ў многіх тады прападзе ахвота ставіць яму помнік.

**У. Калеснік.** Паталогія часу — вось што трэба даследаваць. Як давялі людзей да страты годнасці чалавечай, да страты маральнага коду, па якім жыло ўсё чалавецтва спакон вякоў. Пра ўрокі сталінізму трэба гаварыць, а не пра артыкул Цішкі Гартнага.

**І. Жук** (Гродна). Дэфармацыя часу і свядомасці — пытанне надзвычай важнае. Вяртаючы спадчыну, мы несумненна ажыццяўляем высакародную ідэю. Але гэта толькі палова справы. Трэба нарэшце ў поўны голас сказаць народу, што на пераломе 20—30-х гг. адбывалася не проста сацыяльная несправядлівасць. Трэба сказаць, трэба растлумачыць, што гэты пералом азначаў не што іншае, як гвалтоўнае ўсталяванне пад прыкрыццём высакародных мэт абсалютна іншай дзяржаўнасці, што самым крэўным чынам была незацікаўлена ў інтэлектуальным капітале народаў. І, як заўсёды бывае ў гіганцкіх сацыяльных працэсах, калі адна дзяржаўная дактрына заступае на месца другой, у перакрэсці гісторыі аказваецца духоўная існасць народа, дух нацыі. Тыя імёны беларускіх пісьменнікаў, што называліся тут ці яшчэ будуць называцца — самае яркае ўвасабленне народнага, нацыянальнага духу. Абылганне іх інтэлектуальнымі пігмеямі азначала перадусім абылганне народнага духу. О, гэта хітрая, своеасаблівая філасофія!.. Выхаванне спадчынай павінна ажыццяўляцца не толькі праз сам факт яе вяртання, але і праз гісторыка-філасофскае асэнсаванне прычын і прадметных урокаў ад яе страты. Калі мы пераможам, зломім старое дзяржаўнае ўтварэнне, тады будуць у нас і летапісы, і Ластоўскі — усё будзе. Галоўнае — павярнуць народную думку.

**Рэпліка:** Ужо павярнулі! (паказваецца нумар «Вячэрняга Мінска»).

**І. Жук.** Хачу яшчэ сказаць, што нам трэба навучыцца аб'ектыўнасці бачання і ясна ўсвядоміць, што канкрэтныя паводзіны Ц. Гартнага, ці А. Салагуба, ці П. Галавача ці... імярэк, — гэта толькі суб'ектыўныя праявы таго, што ўжо не залежала ад іхняе волі. Без рэальнага ўліку супярэчлівай сукупнасці аб'ектыўных і суб'ектыўных акалічнасцяў вярнуць усё лепшае, каштоўнае наўрад ці зможам.

Я не магу падзяліць цалкам той упэўненасці, з якой Нічыпар Еўдакімавіч гаварыў пра спрыяльнасць умоў. Па маіх падліках у зруйнаванай пасля першай сусветнай і грамадзянскай войнаў Беларусі выходзіла толькі літаратурных выданняў звыш 50 — амаль у 10 разоў больш, чым сёння. Яшчэ вярнулі нарэшце чытачу «Тутэйшых» Я. Купалы. Але як вярнулі? З агаворкамі пра «непаслядоўнасць», «памылкі» і «хістанні» народнага песняра, у той час як сам твор сведчыць пра дзівосную цэласнасць Купалы. Мы цалкам правамоцныя паставіць пытанне: дык хто ж памыляўся — Купала ці мы ў сваіх недагаворках, замоўчваннях? Злавесны цень бэндаўшчыны — і не толькі на літаратурнай ніве — завіс над намі і яшчэ ўладарна водзіць нашымі пёрамі.

**У. Калеснік.** Я згодзен з вамі: неабходна даследаваць грамадскія абставіны. Але, па-мойму, мы маем справу не з філасофіяй, а з сацыяльнай псіхалогіяй.

**Н. Пашкевіч:** А чаму мы не можам гаварыць пра філасофію сталінізму? У Сталіна была свая філасофія..

**Рэпліка:** Пазычаная ў Льва Давыдавіча.

**У. Калеснік.** Сталінісцкае разуменне класавай барацьбы — вульгарнае і аднабаковае. Паміж антаганістычнымі класамі існуюць дыялектычныя ўзаемаадносіны: стан барацьбы — і стан еднасці, узаемадзеяння. У перыяд нацыянальна-вызваленчых рухаў адбываецца збліжэнне пазіцый, яднанне класаў у імя агульна-нацыянальных інтарэсаў. Класы ж — не тарантулы ў шклянцы! Пры сляпой варажнечы распадаецца грамадства. Калі вярнуцца да пытання перавыданняў, то, на мой погляд, трэба нам перачытаць Б. Тарашкевіча. Светлы, цікавы, багаты душой чалавек! Ігната Дварчаніна мы слаба ведаем. А М. Гарэцкі? Ён жа выратаваў гонар беларускай літаратуры і беларускай крытыкі ў перыяд «Маладняка». Не столькі літаратурай займаліся маладнякоўцы і верхаводы БелАППа, колькі палітыканствам і кар'ерызмам. «У пантофлях мякка цёхкаць па касцёх вялікіх дзён», як іранічна гаварылі іх праціўнікі.

**А. Мальдзіс.** Адносна Дварчаніна: яго пражская дысертацыя пра Скарыну рыхтуецца да выдання. Літаратуразнаўчая спадчына Гарэцкага падрыхтавана да друку ў Інстытуце літаратуры і таксама неўзабаве будзе выдадзена.

**У. Калеснік.** Цікавай для сучаснага чытача магла б быць публіцыстыка такіх аўтараў, як Дубоўка, Пушча, Бабарэка. Пра апошняга людзі зусім мала ведаюць, а ён жа бліскучы публіцыст, крытык, стыліст. Адносна заходнебеларускіх аўтараў: Самойла. У 23-м годзе выдалі там на гектографе ім напісаную стэнаграму судовага працэсу над беларускімі патрыётамі. Гэта цэлы том, цікавейшае чытанне. Паўстае, дарэчы, пытанне, як нам быць з крытыкай сталінізму, якая вялася ў заходнебеларускім друку. Яе трактавалі тады як антысаветчыну.

**Рэпліка:** З фашыстоўскай падваротні...

**У. Калеснік.** Нехта павінен тэарэтычна абаснаваць, колькі ў тагачасных публікацыях правамернай крытыкі сталінскіх парадкаў і колькі антысаветчыны. Я не заклікаю рэабілітаваць Антона Навіну, яго пазіцыю. Навіне нельга даравяць здраду Тарашкевічу і Грамадзе. Ён жа на судовым працэсе адкалоўся ад іх і стаў з абвінавачанага сведкам, інфарматарам пракурора.

**С. АНДРАЮК, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».** Я хацеў бы звярнуць увагу на адну асаблівасць (можа, самую істотную) крытычнай ацэнкі літаратурных з'яў і фактаў мінулага. Сёння выразна выявілася: усе мы дзеці свайго часу. Пры аналізе той ці іншай з'явы нашай літаратурнай спадчыны, пры яе ацэнцы галоўным, а вельмі часта і адзіным з'яўляецца крытэрый грамадска-палітычны: пра што пісаў пісьменнік? Чые класавыя, нацыянальныя, рэлігійныя інтарэсы абараняў? З кім ён быў? Вось пытанні, якія найперш высвятляюцца. Мы не навучыліся мысліць мастацкімі, эстэтычнымі катэгорыямі. А сёння, калі ў нашым жыцці, у нашай палітыцы прыярытэт аддаецца каштоўнасцям агульначалавечага зместу, і на гісторыю культуры, на спадчыну літаратурную паглядзець трэба па-іншаму. А менавіта, выяўляючы яе высокі духоўны, гуманістычны змест, улічваючы абавязкова эстэтычны ўзровень. Інакш мы ніколі не разбяромся з нашымі ўсё яшчэ схаванымі багацейшымі скарбамі.

**В. Рагойша.** Апрача вяртання нашай уласнай літаратурнай спадчыны, нам патрэбна падумаць і аб вяртанні сучаснікам найбольш яскравых старонак з гісторыі беларуска-іншанацыянальных літаратурных узаемасувязей. Тым самым мы не толькі ажыццявім гістарычную справядлівасць, ліквідуем асобныя «белыя плямы» ў гісторыі сувязей, але і ўнясём пэўны ўклад у іх далейшае ўмацаванне і развіццё.

Вось невялікі прыклад. Калісьці, да пачатку 30-х гадоў, на Украіне шырока гучала імя паэта Грыцька Чупрынкі (1879—1921), трагічны лёс якога нечым нагадвае лёс рускага паэта М. Гумілёва. Аднак пасля, у выніку вядомых акалічнасцей, гэтае імя знікла нават з самых поўных бібліяграфічных даведнікаў. І толькі цяпер украінцы пачалі пісаць пра Г. Чупрынку, публікаваць яго творы.

Аднак вядома, што з Г. Чупрынкам у свой час сябраваў Сяргей Палуян. Два яго вершы яшчэ ў 1908 г. пераклаў на беларускую мову Янка Купала. А ў 1916 г. вялікі надзвычай грунтоўны артыкул пра яго творчасць у маскоўскім часопісе «Украинская жизнь» апублікаваў Максім Багдановіч. Вось вам яшчэ адна старонка беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей!

Дарэчы, высвечваецца асобная праблема: узаемадапамога паміж народамі-суседзямі ў вяртанні літаратурнай спадчыны. Скажам, публікацыя артыкула М. Багдановіча «Грыцько Чупрынка» (як і невялікага водгуку пра У. Віннічэнку ў № 7 часопіса «Вітчизна» за сёлетні год) — гэта, па водгуках саміх украінцаў, своечасова працягнутая надзейная сяброўская рука. Артыкул М. Багдановіча стаў першай у наш час грунтоўнай працай пра незаслужана зганьбаванага і забытага ўкраінскага паэта.

Тут хацелася б выказаць падзяку «Литературной газете», якая ў красавіку мінулага года першай адгукнулася на 100-гадовы юбілей Алеся Гаруна, не пабаялася надрукаваць мой артыкул «Шлях паэта». Толькі пасля гэтага з'явіліся праз некаторы час артыкулы пра А. Гаруна ў беларускім друку, публікацыі яго твораў, у тым ліку — факсімільнае выданне «Матчынага дару». У дадзеным выпадку рускія літаратары аказалі сапраўды сяброўскую дапамогу нам, беларусам.

І яшчэ адна праблема: культура публікацый і ацэнкі літаратурных твораў, якія вяртаюцца. Правільна сказаў Тарасаў: мы гаворым, што і тое, і тое трэба вярнуць, а базы для друкавання няма. Сабраліся б дырэктары выдавецтваў, галоўныя рэдактары і памеркавалі, хто што будзе выдаваць. Бо спіс у любы час можа прадставіць інстытут літаратуры. Чаму б да вашага грунтоўнага спісу, Уладзімір Андрэевіч, не дадаць зборнік Пічэты?

**А. Мальдзіс.** Зноў узнікае праблема кадраў. Каму рыхтаваць? Каму ўкладаць?

**В. Рагойша.** Праблема не столькі ў кадрах, колькі ў аплаце. Калі б вырашылі гэтае пытанне, то многія ў пазарабочы час узяліся б за ўкладанне, падрыхтоўку тых ці іншых зборнікаў.

Да мяне, дарэчы, з прапановамі не звярталіся. Я мог бы падрыхтаваць таго ж Пічэту. Саламевіч — яшчэ некага. Калеснік — яшчэ некага... Той жа Ігар Жук таксама не адмовіўся б ад творчай і цікавай справы. Мы шмат працавалі на энтузіязме. Па сутнасці, уся Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі зроблена энтузіястамі. Бо тыя капейкі, якія плацяцца, — не аплата. І дзякуй усім нам, што мы браліся і бяромся за такую работу.

Наконт падрыхтоўкі тэкстаў. Што браць за аўтэнтычны тэкст? Апошняе прыжыццёвае выданне? Тэксталогія патрабуе менавіта гэтага, мы, як правіла, так і робім. Мы знаем, як выдаваліся творы Караткевіча. Тут і рэдакцыйнае ўмяшанне, тут галоўліт, тут, нарэшце, і самацэнзура. А распараджэнні Дзяржкамвыда? То бога не ўспамінай, то слова «гарэлка» забаронена, то прысвячэнні раптам зняць....

**Я. Саламевіч.** З вясельных песень у нас таксама выкінулі слова «гарэлка» — замянілі на «мёд».

**В. Рагойша.** Мы ведаем, як цяжка ішла «Зямля пад белымі крыламі» Уладзіміра Караткевіча. Спачатку яна выйшла на Украіне і ў больш поўным выглядзе, чым у нас. Возьмем васьмітомнік Караткевіча. Вось першы том, паэзія. У некаторых вершах, у параўнанні з рукапісамі, адсутнічаюць асобныя строфы, няма прысвячэнняў. Хаця б у каментарыях было пазначана, што знята, што заменена.

**А. Мальдзіс.** Ёсць навуковыя выданні, каментарыі даюцца толькі ў іх.



 

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# ВЫДАВЕЦТВЫ: ПОЗІРК У ЗАЎТРА

**У Саюзе пісьменнікаў БССР**

Чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР 14 лістапада было прысвечана абмеркаванню планаў выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва» на 1990 год.

Пры складанні плана, расказаў дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» **В. Грышановіч,** былі ўлічаны пажаданні і меркаванні чытачоў, выказаныя ў час Скарынінскага свята і рэспубліканскай выстаўкі-продажу беларускай літаратуры. У прыватнасці, пачне выходзіць «Бібліятэка беларускай класікі». На самае шырокае кола чытачоў разлічана і серыя «Спадчына». У ёй выйдуць «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, яго артыкул «Маладняк» за пяць гадоў» і «Беларуска-расійскі слоўнік» братоў Гарэцкіх. Выпускаецца літаратурная крытыка і публіцыстыка аўтара першай беларускай граматыкі Б. Тарашкевіча. У гэтай жа бібліятэцы势 плануецца аднатомнік аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня...», творы А. Мрыя, Старога Уласа — усяго восем кніг. Будуць выпускацца і такія новыя серыі, як «З творчай спадчыны» і «Беларуская гістарычная проза».

В. Грышановіч зазначыў, што ў перспектыве плануецца выпуск старажытных беларускіх летапісаў і хронік. Да гэтай справы мяркуецца прыцягнуць навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Прамоўца гаварыў таксама аб арганізацыйных захадах выдавецтва дзеля таго, каб найбольш плённа і паспяхова прапагандаваць беларускую літаратуру. Было б добра, заўважыў В. Грышановіч, каб заказы на беларускую кнігу збіраліся і за межамі рэспублікі, каб стварыць у Маскве магазін «Беларуская кніга».

У выдавецтве «Юнацтва», паведаміў яго дырэктар **В. Лукша,** таксама нямала робіцца для таго, каб наблізіць кнігу да чытача: праводзяцца кніжныя прэм'еры, сустрэчы супрацоўнікаў выдавецтва, пісьменнікаў у школах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах. Пры складанні плана ў «Юнацтве» паклапаціліся аб тым, каб высокамастацкія кнігі выйшлі да 120-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, 45-годдзя Перамогі, 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны, 70-годдзя камсамола Беларусі. Як і раней, практыкуецца выпуск серый. Праўда, выдавецтва адмовілася ад бібліятэчак, якія маральна ўстарэлі. Будзе выходзіць штогоднік «Пульс», прысвечаны самым актуальным праблемам часу. Адрасуецца ён падрастаючаму пакаленню. Пачне выдавацца і штогоднік гістарычнай літаратуры, распачынаецца выпуск коміксаў, рыхтуецца зборнік па пытаннях экалогіі, большая ўвага звяртаецца на выпуск навукова-папулярнай літаратуры.

Разам з тым, заўважыў В. Лукша, выклікае трывогу, што ў планах «Юнацтва» няма аповесці ці рамана пра сучаснае школьнае жыццё, няма твораў пра балючыя праблемы сённяшняй моладзі.

**Н. Гілевіч** адзначыў большую прадуманасць плана выдавецтва «Мастацкая літаратура», падтрымаў выпуск новых серыйных выданняў, арганізацыйныя захады па прапагандзе беларускай кнігі, параіў уключыць у план кнігу спадчыны А. Абуховіча — якраз спаўняецца 150-годдзе з дня яго нараджэння. Добра, што выдавецтва звяртае вялікую ўвагу на выпуск публіцыстыкі, заўважыў Н. Гілевіч, але ж такія кнігі павінны выходзіць аператыўна, за нейкія два-тры месяцы.

Ухваліўшы падрыхтоўку кнігі Б. Тарашкевіча, **Максім Танк** сказаў, што трэба падумаць і пра выданне публіцыстыкі рэдактара «Нашай Нівы» А. Уласава, а таксама А. Луцкевіча.

Пра вялікія цяжкасці, звязаныя з выданнем спадчыны, гаварыў **Б. Сачанка.** Закранаючы пытанне аб аператыўным выпуску публіцыстычных кніг, ён выказаў пажаданне, каб пры адным з перыядычных выданняў была створана бібліятэчка публіцыстыкі.

У гаворцы аб выдавецкіх планах прынялі ўдзел **С. Андраюк, Я. Брыль, В. Коўтун, В. Рагойша, П. Ткачоў, У. Паўлаў, В. Адамчык...** Яны ўдакладнялі пазіцыі тэматычных планаў, гаварылі пра больш уважлівае стаўленне да нашай спадчыны, пра перавыданне асобных кніг, якія варты ўвагі чытача.

●

На парадку пасяджэння прэзідыума праўлення СП, якое адбылося 22 лістапада, стаяла два пытанні: прыём у члены СП БССР і абмеркаванне маладзёжнага часопіса «Крыніца» («Родник»). Справаздача з гэтага пасяджэння будзе надрукавана ў наступным нумары.

**Наш кар.**

# «Круглы стол» у Магілёве

«Круглы стол» «Актуальныя пытанні развіцця беларускай мовы і літаратуры» праведзены на курсах павышэння кваліфікацыі партыйных, савецкіх і ідэалагічных кадраў Магілёўскага абкома КПБ.

Адкрыў і вёў «круглы стол» намеснік загадчыка аддзела агітацыі і прапаганды абкома партыі М. С. Жаўток. Сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў І. Аношкін спыніўся на гісторыі развіцця беларускай мовы і літаратуры, на сённяшнім іх стане, расказаў аб дзейнасці Саюза пісьменнікаў БССР па аднаўленні роднай мовы ў яе правах.

Адказны сакратар абласной арганізацыі Саюза журналістаў М. Гарадзецкі і загадчык ідэалагічнага аддзела абласной газеты «Магілёўская праўда» А. Тарпачоў гаварылі аб асвятленні праблем двухмоўя ў рэспубліцы на старонках перыядычнага друку. Намеснік старшыні праўлення абласной арганізацыі аматараў кнігі Я. Жалудко, дырэктары абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна В. Баранава і абласной дзіцячай бібліятэкі імя А. Гайдара Р. Рыхнова засяродзілі ўвагу на неабходнасці лепш прапагандаваць беларускую кнігу.

**А. РАЖОК.**

# Радасць зямлі

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).**

Хведар яго не слухаў. Ён так нечакана ўчуў тое пра сына, з такім унутраным болем уразіла яго тая навіна, што ён анямеў на хвіліну. Болей ён не мог ні пра што пытацца, толькі самотна паглядзеў на шырокі абсяг руні, за якой на пагорку віднеліся стрэхі недалёкай вёскі, і моўчкі пайшоў па ўзлеску. Пра хлеб ён так і не папытаўся. Ён ужо не мог нічога прасіць, пайшоў прэч, як пабіты сабака. Ішоў і думаў: нашто ён прыйшоў сюды, зачапіў гэтага старога? Лепш бы ён не ведаў нічога ні пра тутэйшае жыццё, ні пра сына. Жыў бы, як і раней, аднымі сваімі бедамі, што гадамі насіў у сабе. Нашто яшчэ да іх дадаваць і гэтыя? Як з імі жыць у сваёй спарахнелай душы?

Хаця якое ўжо там жыцце...

Зусім няўцямны да наваколля, ён далёка адышоўся па ўзлеску ад старога з каровай, ні разу не азірнуўшыся на яго; пасля зайшоў глыбей у ліставяны лес і апусціўся ў высокую папараць. Тое, што ён учуў пра сына Міколку, напачатку бянтэжыла, збівала з тропу. Ну хай адмовіўся ад раскулачанага бацькі, навошта ж так да людзей? І яшчэ мяняць прозвішча? Што ж тады застаецца ад мінулага? Як тады жыць у будучым? Што ён скажа сваім дзецям, калі тыя будуць у яго? Дужа яму няпроста было зразумець сына, якога ён не бачыў сем год, і тое, што ён пачуў пра яго, адно бянтэжыла і абурала.

Малы Міколка быў жаласлівы да жывёлы, неяк усю зіму трымаў у клетцы пад ложкам бедалагу-курачку, якая зламала нагу. Дужа шкадаваў маці, як тая хварэла на рожу. А як вырас, мусіць жа, гэтак аддана палюбіў камсамол. Можа, і не сам камсамол, як тую гарластую мітусню, якой з захапленнем займаліся маладыя, — ад суму і самоты — седзячы зімой у цёмных завеяных снегам вёсках. Усё нешта выдумвалі, выконвалі, засядалі, абмяркоўвалі і прымалі рэзалюцыі. З усёй іх ячэйкі асабліва актыўнічалі Міколка і ягоны аднагодак Шурка, адзіны сынок у бяднячкі-ўдавы Міхаліны. Аднойчы яны прынялі рэзалюцыю, каб зняць абразы. Канешне, дамагчыся таго ва ўсёй вёсцы, як ім хацелася, хлопцы не мелі сілы, тады пастанавілі зняць хоць бы ў сваіх бацькоў. Тое было прасцей, але, мусіць, таксама не надта, бацькі іх не дужа слухаліся. Хведар глядзеў на хлапечую задуму даволі памяркоўна — што тыя абразы! Праўда, вісяць у куце, нікому не замінаюць, але і карысці з іх таксама няма ніякай. А Ганулля заўпарцілася, не хацела знімаць нізашто, і Міколка яе ўгаворваў ад каляд да самага вялікага паста. Усё ж дамогся, аднойчы пазнімаў і абразы і ручнікі з іх, замест павесіў вялікі партрэт Карла Маркса; ручнікоў, аднак, вешаць не стаў. З таго часу вісеў у куце барадаты чалавек, таксама ні карысці з яго, ні шкоды. Міколка ж быў задаволены, ну і добра.

І тут пад вясну неяк выпадкам камсамольскі сакратар дазнаўся, што ў Шуркі астаўся адзін абраз, вісіць на покуці, Міколка сабраў камісію з трох чалавек, і яны пайшлі ў хату да Шуркі абследаваць. Аказалася, што так яно і ёсць, як казалі: абраз архангела Гаўрыіла вісіць сабе, дзе і вісеў. Міхаліна, Шуркава маці, у плач, нізашто не дае знімаць, і Шурка нічога зрабіць з ёй не можа, такі аказаўся мяккацелы камсамолец. Міколка тут паставіўся крута. Думалі, ён скіне абраз, а ён абраз не чапаў, а сабраў камсамольскі сход і, не зважаючы на даўняе сяброўства, дамогся, што Шурку выключылі з камсамола. Хведар трохі падзівіўся з таго і неяк увечары мякка папракнуў сына. Сказаў, ці не занадта сурова яны паставіліся да свайго ж вясковага хлопца, як Міколка яму адказаў з нечуванаю раней строгасцю ў голасе: «Камсамол такіх ашуканцаў сцірае ў парашок!» — «Ну-ну!» — зважліва сказаў сабе бацька і пайшоў па сваіх хатніх справах. На тыя сынавы клопаты ён глядзеў тады, бы на дзівацтва малых. Малое — дурное, падрасце — паразумнее.

Мабыць, аднак, паразумнеў па-свойму.

Разважыўшы, аднак, Хведар пачаў спакойнець, думаць інакш: а можа, цяпер так і трэба. І ў ссылцы ён даволі нагледзеўся на ўсялякія выкруты чалавечых лёсаў, начальніцкую строгасць і жорсткасць без мэты, ці якія мелі адну мэту — здзек. Але дабрыня, мусіць, там, дзе справядлівасць і праўда. А дзе класавая бязлітаснасць, жорсткасць вышэйшых да тых, хто ніжэй, якая ж там дабрыня! Мусіць, навек адышла дабрыня з мінулым часам, на змену ёй паявілася нешта новае — жорсткае і няшчаднае. Ягоны разумны Міколка, мабыць, хутка засвоіў тое. Калі ён цяпер стаў такі, значыць, такім стаць было трэба. Асабліва калі ён не па сваёй злосці, а з дзяржаўнай патрэбы. Значыць, інакшай нельга. А што выракся бацькі... Крыўдна, канешне, і балюча, ды што зробіш? Можа, ён адрокся таму, што бацька быццам памёр і ніколі не даведаецца пра тое. Прынамсі, для яго, сына, сапраўды памёр, калі за шмат год ад таго — ні ліста, ні якой выпадковай весткі. Можа, так сыну лепей. Зноў жа — кулак!.. Мабыць, бацьку ўжо тым не нашкодзіць, а сын пажыве, можа.

І ўсё ж было крыўдна, балюча было Хведару, хоць плач.

Калі пачало вечарэць, ён падняўся з папараці, агледзеўся. Скрозь у целе была вялікая слабасць, ногі зрабіліся тоўстыя, бы кулі (ці не пачалі пухнуць?), і неяк цягнулі ўніз. Ён зноў памалу пайшоў праз гушчар на ўзлесак і па-над рунню патупаў у бок бульбянога палетка.

Сонца тым часам ужо сышло з небасхілу, схавалася за вяршаліны лесу, але неба над полем яшчэ поўнілася ягоным нізкім святлом, у якім вольна плылі кудысь пульхныя аблокі. Як Хведар і прадбачыў, бульбу на палетку ўжо ўсю выбралі, ні жанчын, ні коней нідзе не было відаць, толькі воддаль бугрыўся адзіны, накрыты саломай бурт. Ну але бурт яму не патрэбны. Трохі адышоўшыся ад канца загона, Хведар разгроб рукамі ўзараную баразну, пакалупаўся ў зямлі. Не, тут не было нічога, мабыць, усё падабралі. Тады ён адышоўся далей, перагарнуў у двух-трох месцах зямлю, знайшоў перарэзаную лемяхом палавіну бульбіны. Падняў галаву, агледзеўся — быццам нідзе нікога. Ён прайшоў трохі ўбок па загону, дзе валялася ў барознах раскіданае каліўе бульбоўніку, падумаў, што, можа, што-нішто засталося. Капаў у некалькіх месцах, а знайшоў усяго чатыры бульбіны. Канешне, можна б дайсці да недалёкага ўжо бурта, набраць там ў кішэні. Але ён не хацеў надта аддаляцца ад ягонага выратоўцы-лесу. Ды й зноў жа — красці калгаснае? Красці ён не хацеў, ён мог толькі ўзяць пакінутае, нічыё, што спрадвеку людзі не лічылі за грэх. Цяпер тым болей. Таропка пакапаўшыся ў зямлі, знайшоў яшчэ тры невялічкія бульбіны і спалохана азірнуўся. Ад узлеску ў напрамку да яго шырока сігалі па бульбянішчы дзве мужчынскія постаці. Сцяміўшы ўсё адразу, ён выпусціў з рук толькі што знойдзеныя бульбіны і таропка падаўся ўбок — наўкось цераз палетак, да лесу. Тыя таксама збочылі яму наперарэз — адзін пажылы, у ватоўцы і ботах, а другі, маладзейшы і цыбаты, у кепцы на галаве з даўгім насунутым на лоб казырком. Хведар ужо зразумеў, што справа яго — дрэнь, што тыя ловяць яго. І ён, што было сілы, пабег да ўзлеску, але не наўпрост, а беручы ўбок, усё ж трохі паперадзе яго даганятых. Ягоныя пасталы чапляліся за раскіданае каліўе бульбоўніку, ён ледзьве трымаўся на аслабелых нагах; чатыры бульбіны нялоўка боўталіся ў кішэні. Крокі яго, мусіць, былі куды карацейшыя, чым тых двух, што шырока сігалі яму напярэймы да лесу. І ён спалохаўся, што не ўцячэ — дагоняць. Але няўжо яны сапраўды будуць яго лавіць, не адстануць? У нейкі момант яму ўдалося іх троху апярэдзіць, ён амаль дасягаў бярозавага мыска на ўзлессі, з'явілася выратоўчая надзея — а раптам? Яны ўжо нібы заставаліся ззаду, як той першы пагрозліва закрычаў здаля:

— Ах ты, кулацкая морда! Спыніся! Спыніся, кажу!

Хведар аж спаткнуўся ад нечаканасці, тое, што пазнаюць яго, ён не прадбачыў. Але калі так называюць, значыць, пазналі. Як крыкнулі трэці раз, Хведар здагадаўся, што гэта — Зміцер Цыпрукоў, ён яго ловіць! Ах, божа ж мой, не хапала яшчэ трапіць у рукі да гэтага зласліўца! Пякучая злосць шыбанула ў Хведаравы адчуванні, яна надала сілы, Хведар ірвануўся, нібы ў апошні раз, і, не азіраючыся, убег у кустоўе ўзлеску. Тут ён яшчэ бег, праўда, усё марудней, пасля ішоў крокам і зноў аслабела трухаў, каб як мага далей адысціся ў лес, прэч ад таго нешчаслівага поля. Яго даганятыя, здаецца, у лес не пабеглі, засталіся на ўзлеску, і ён доўга шкандыбаў рэдкім недарослым хвойнікам, думаў, што сёння яму не пашэнціла канчаткова. Сёння ні адной прасветліны ў ягоным лёсе за ўвесь гэты пагодны сонечны дзень. Мала яму было тае навіны пра сына, дык яшчэ і Зміцер. Але глядзі ты: пільнуе ў полі. Ці ён які вартаўнік, ці начальнік, калі ў рабочы час разгульвае адзін па палёх. Ды, мусіць, брыгадзір, здагадаўся Хведар, на тое было дужа падобна. Але Зміцер — брыгадзір, гэта ўжо нечакана. Самы няўклюдны гаспадар, у якога некалі здохла кабыла ад бяскорміцы, бо з'ела страху за зіму і не хапіла. Той Зміцер, які за жыццё не навучыўся плесці лапцей (заўжды пляла яму жонка), цяпер гэты недалэга робіць брыгадзірам. Праўда, горла меў добрае, мог накрычаць на каго хочаш, што цяпер, мабыць, самае важнае. Як там, у ссылцы, так і тут, у калгасах. Мабыць, аднолькава...

# Пра Уладзіславу Францаўну

**Максім ЛУЖАНІН**

МЕУСЯ ісці ў Купалаў музей, ушаноўвалі Цёцю Уладзю, абнядужаў. А каб пайшоў, *сказаў бы* нешта такое прыкладна, мяркуючы па некалькіх апорных для свабоднай гаворкі радках, запісаных папярэдне.

Уладзіслава Францаўна!

Мілая, ясная Цёця Уладзя! Каб мая воля, дык ушаноўваў бы яе памяць штогод і часцей. Было на каго палюбавацца, было ў каго навучыцца. Шмат чаму.

Светлай любові да чалавека, не зважаючы, хто ён: абдораны богам талент ці гад печаны—усё роўна — чалавек. Ці той, хто люб яе сэрцу за свае дарагія справы, ці той, што цікуе, як накрыты стол, а потым аббрэша. Скажа—скупая, калі налічыць мала бутэлек, або развядзе рукі—шэйгае грошы, калі падлікі ежы і пітва здадуцца надмернымі. Любіла яна маіх аднакурсніц-дашкольніц з Белпедтэхнікума, якія стажыравалі ў дзіцячым садку, дзе яна доўга працавала да вайны. Раіла маладзенькім дзяўчаткам, як найлепш навучыць, накарміць і забавіць малое, каб яно ў садок бегла само, прасілася туды, а дадому прыносіла пачутыя навіны— вершык, казачку, умельства есці нажом і відэльцам або якую іншую звычку.

Ведала, з чага пачынаць навуку: любіць радзіму, сваю мову, не маніць, не крыўдзіць суседа, быць ахайным у паводзінах.

Цяпер мы спахапіліся: гадаваць грамадзяніна з нацыянальным абліччам і чыстым сумленнем трэба з дзіцяці, з садка трэба брацца за гэта. А яна вунь калі ведала, больш за паўстагоддзе назад, і працавала, не толькі аддаючы на малых усе заробкі і ганарар за свае дзіцячыя кніжкі, але і прыкладала яшчэ са сродкаў, за якія трымала дом.

А дом штодзень не абыходзіўся без госця ці госці, а то і дваіх ці траіх, і для ўсіх хапала ласкі і пачастункаў. Дый так дом гэты быў не пусты: добрая паэтава маці, дзве пляменнічкі Дзюня і Ядзя, Зыгмусь, таксама пляменнік ці сваяк іншага рангу. І яны былі ўсе дагледжаны, апрануты, накормлены. Тут сама Цёця Уладзя не ўправілася б, памагала Зося, бялявая, дробнага росту, свой чалавек, блізкі.

Галоўны ж клопат—Купала. Каб яму добра працавалася, рабіла ўсё, сачыла, каб не папсаваўся настрой, каб у пару нешта нагадаць, зрабіць, падгадзіць, падбаць аб ягоным выглядзе — свежай кашулі і адпрасаваным гарнітуры—густ дзядзька Янка меў элеганцкі. І пры ўсім гэтым умела не заўважыць у вялікага паэта малой чалавечай правінкі, як бы ні засмучала што яе ці крыўдзіла.

Колькі трэба было мець душы, такту, ветлівасці, даваць рады такім найскладанейшым абавязкам і кожнаму сустрэтаму несці на вуснах усмешку, прыветную, шчырую! Мне, прынамсі, не давялося бачыць у Цёці Уладзі ўсмешкі робленай ці змушанай.

Хоць злавалася і «шумела» даволі часта. Больш за ўсё—калі сутыкалася з несправядлівасцю, чыноўніцкім неразуменнем або бяздушнасцю. Але дамагалася свайго, не пераходзячы крайніх межаў, у часе стрымлівала сама сябе. Бо больш чым чаго, патрэбнага чалавечай асобе, было ў гэтай жанчыны мужнасці. Сапраўднай, магчыма, надмужчынскай. Але пра гэта скажацца пазней, калі ўспамяну цяжкія часы для краіны, для Купалы, для яе. Цяпер жа яшчэ пра дом і дзіцячы садок.

Пры так шырока адчыненых для людзей дзвярах дома і рэгулярнай падтрымцы свайго садка, Цёця Уладзя мусіла ўладаць немаленькімі здольнасцямі фінансіста, інакш не ўтрымаць бы ёй свае справы, як кажуць, «у ажуры». Думаецца, Купалавы заработкі—не збіраюся лічыць, брыдка! — у пэўныя часы былі сціплыя, не часта перавышалі вызначаную ад дзяржавы пенсію. Аднак праз цётчыны намаганні ў доме *і за домам купалаўскі* побыт рабіў уражанне дастатку, нават раскошы. І сёстрам дапамога ішла, і студэнткі, мае калежанкі, не-не дый паказваліся хто з свежым каснічком, хто з брошкай, а то і новай блюзачкай. Не адна з іх прызнавалася ў паходжанні свае абноўкі:

— Ад Цёці Уладзі. Не хацелася браць, але яна адмоваў не прызнае. З сябе здыме і аддасць.

Відаць, тое самае рабіла яна і сваім выхаванцам, дзецям малазаможных бацькоў. Словам, дом Купалаў і Купалішын садок трымаліся на моцнай повязі. За садком стаяў і сам паэт — прымаў блізка да сэрца турботы, хадзіў туды на святы. І хто ведае, каб не гэтая акалічнасць, ці ўбачылі б мы Купалавы самацветы—вершы і песні для дзяцей?

І яшчэ: жонка першага, лічы, паэта рэспублікі займаецца выхаваннем дашкольнікаў. Адно гэта надавала асаблівую вагу, рабіла прывабнай і пачэснай цяжкую прафесію. Ахвотнікаў трапіць у той малы садок, здаецца, на Садовай, прыбывала, усім хацелася прыстроіць дзіцяня пад руплівае крыло Цёці Уладзі.

Пазнаёміцца з Цёцяй Уладзяй пашчасціла даўно, але некаторы час, як гавораць, знаёмства было назіркам. Купала яшчэ не меў дома на Акцябрскай (тады Хрышчэнская) і здымаў кватэру на былой Правіянцкай (цяпер—Захарава), акурат насупраць агульнага памяшкання Белпедтэхнікума. Мы, студэнты, амаль штодня бачылі паэта з невысокай усмешлівай жанчынай, часта яны вярталіся дамоў на рамізніку. Бачылі, як шнуравалі да іх госці, вядомыя мовазнаўцы, пісьменнікі, географы, дзеячы культуры, артысты. Трапіць у такі гурт і не марылі, хоць некаторыя з нас — Дарожны, Глебка і я—сяды-тады заходзілі ў сумежную з Купалавай кватэру, дзе жыў паэт Ізраіль Плаўнік са сваім *братам Змітраком Бядулем*. Вось там і заспела нас Цёця Уладзя аднаго разу. Зайшла паклікаць на вячэру братоў Плаўнікаў—абодва былі нежанатыя і бесхацінцы,— а заадно прыхапіла і нас.

Так адбылося знаёмства з *паэтам і ягонай* сяброўкай ужо не назіркам, а сапраўднае, за руку. Цётка накарміла добрай вячэрай, напаіла смачным чаем і адпусціла, наказаўшы: «Заходзьце, хлопцы. Мы вас усіх ведаем».

І сапраўды ведалі, запомнілі неяк нашы, зусім рэдкія яшчэ ў друку, прозвішчы.

Праз некаторы час Купала пераехаў у дом з таполяй перад брамай. Насупраць была лепшая ў горадзе лазня Паплаўскага, названая, відаць, паводле прозвішча былога ўласніка. Неўзабаве пераехалі і мы ў дамы непадалёку, на былую Савецкую. Так што мы маглі бачыць іх абоіх, часцей Цёцю Уладзю, калі прабягала яна на работу ў свой садок.

Аднойчы перад майскімі святамі тры жыхары малога пакойчыка ў новым агульным памяшканні — Дарожны, Глебка і мастак Анатоль, прозвішча не ўспамінаецца, — запрапанавалі мне і Трусу далучыцца да іх кампаніі і разам адзначыць свята. Меліся заглянуць на хвілінку туды і нашы дзяўчаты. На пачастунак *скалаліся: трохі партвейну*, цукерак і печыва, і добра. Пайшлі ў лепшы гастранамічны магазін, які належаў «Чырвонаму Крыжу», і, цвёрда помнячы неабходнасць укласціся ў бюджэт, пачалі прыцэньвацца.

— А што вы тут выглядаеце? Пагуляць хочаце? З дзяўчатамі? А колькі вас усіх? Давайце я дапамагу.

Збянтэжаныя, мы вылажылі патрэбныя весткі і аддалі Цётцы ўсе наяўныя грошы. З жахам глядзелі, як завіхаюцца прадаўцы, наразаючы сакаўную вяндліну, сыр са слязой, ніколі не спытаную яшчэ ружаватую рыбу.

Калі ўсё гатова, запакавана і завязана, Цёця Уладзя закамандавала:

— Во, бярыце! Вельмі не нараскашуецеся, але ўсё смачнае і павінна ўсім хапіць. А хлеба ведаеце, дзе ўзяць?—Яна назвала славутую нэпманскую пякарню. — А гэта вам рэшта,—і ўпхнула Дарожнаму ў кішэню нешта пакамечанае.

Цётка знікла таксама імгненна, як і з'явілася, мы не паспелі як след падзякаваць. Прыселі перакурыць на скверчыку, Сяргей палез у кішэню па папяросы і выцягнуў звернутую «рэшту». Гэта была зусім непачэпаная ўся наша «складчына», кошт пакунка перавышаў яе, напэўна, у два разы.

Стала няёмка: што рабіць? Несці аддаваць? Не возьме, на смех падыме.

— Трэба купіць падарунак, — прапанаваў Трус.

— А што ты за гэтыя капейкі купіш?

Некаму асвятліла мазгі выратавальная думка: паблізу на вуліцы Карла Маркса можна купіць букет, і ўсё па ўсім.

Так і *зрабілі*, букет атрымаўся адмысловы, але хто панясе? Пачалі вылучаць «дастойнага», вярнулі адзін на аднаго. Жанчына, якая прасявала кампост каля парніка, спытала:

— А далёка несці?.. А, дык гэта зусім *поруч*. Вунь *мая* Манька гуляе з сяброўкаю. Дайце ім на марожанае, дык хоць у Лошыцу заімчыць.

Што кветкі былі дастаўлены на месца і трапілі ў належныя рукі, неўзабаве высветлілася. Пры сустрэчы Цёця Уладзя пакiвала на мяне пальцам, а на запытанне, чаго грозіць, можа, гневаецца, засмяялася:

— Не тлумі галавы! Дзякуй!

Дужай, мужнай душы чалавек была Уладзіслава Францаўна. Калі здарылася цяжкае — Іван Дамінікавіч наважыў пайсці з жыцця, на дом пісьменніка ацерусілася чорная жалоба: людзі хадзілі як пад ільдом, моўчкі падавалі адзін другому руку і разыходзіліся ў розныя бакі. Друк трубіў, што рыхтуецца працэс над контррэвалюцыйнай арганізацыяй нацдэмаў, за краты былі пасаджаны выдатныя пісьменнікі і навукоўцы. Няўжо і дзядзьку Янку нешта пагражала? Хацелася хоць што пачуць, дазнацца, ці здароў хаця.

У такім прыгнечаным стане ішоў, нічога не чуючы і не бачачы, і літаральна сутыкнуўся з Цёцяй Уладзяй. Яна спынілася, спытала пра нейкую драбязу і на адыходзе напаўголасу сказала:

— Янку ўжо лепей. Ён у бальніцы на Ленінскай. Я яму папяросы насіла. Неўзабаве будзе *дома*. — І каб не паказаць, як перасмыкнуліся ад болю вусны, пайшла, ледзь не пабегла.

Стала зразумела, уцешныя словы адрасаваны не мне аднаму. Паспяшаўся расказаць бліжэйшым суседзям па вуліцы Розы Люксембург: Таўбіну з Астапенкам, Дарожнаму, у іх у гасцях быў Міхась Багун. І ў іх адразу пасвятлелі вочы і твары.

Многа пазней давялося дазнацца, як тая вестка трапіла за краты. Жонка аднаго з арыштаваных разам з пералікам прадуктаў у перадачы і пажаданнем здароўя злаўчылася прыпісаць: «**Як упала** дзіця, парэзалася, але яму ўжо лепей». Да правяральшчыкаў лістоў і вартаўнічых сэнс не дайшоў, затое ў камеры пісульку разабралі адразу і адстукалі ўсёй турме.

Праз некалькі год вымушанай адсутнасці я прыехаў у Мінск. Не ведаю, адкуль ён дазнаўся, аднак літаральна праз некалькі гадзін у дом жончыных бацькоў, дзе я спыніўся, прыбег задыханы Броўка. Прысесці не захацеў, вывеў на вуліцу: «Няўжо ты вінават? Няўжо асмелішся падняць руку?»—«Ніякай рукі я ні на кога не падымаў. Супакойся!» Супакоіўся ці не, не ўпэўнен, але больш не пытаў. Пайшлі да Глебкі, яго не было дома. На тым і развіталіся, ён да сябе не паклікаў. І ўсё ж я захаваў удзячную памяць — на той час гэта было высакародна і смела.

Назаўтра блукаў без мэты па горадзе, проста адведваў дарагія мясціны, прыгадваў памятныя здарэнні. Каля будынка Белпедтэхнікума ўбачыў Цёцю Уладзю. Хацеў быў перайсці на другі бок—не ведаў, ці захоча *яна пазнаць*, ці адкажа на павітанне. Уцячы яна не дазволіла, заступіла дарогу. Падала руку і, заглядаючы ў вочы, папытала:

— Вольны? Назусім дадому?

Пэўнасці ў сваім лёсе не меў, *так мэкаў абы-што, а яна* гаварыла нешта ў суцяшэнне, вяла дадому.

— Да нас! Да нас! А як жа!—і не хацела слухаць пярэчанняў.

Дома насіла з кухні гарачую ежу, даставала з буфета штосьці, *частавала*, *падлівала*, і мне здавалася, што нікуды не ездзіў, нічога не здаралася... Толькі ўвесь час парывала стаць перад ёю на калені і пацалаваць руку, як маці.

— Вось шкада, Янкі няма. Але не спяшай, хутка прыйдзе,—Цёця Уладзя запрашала пасядзець.

Купалы я не дачакаўся, а хацелася пабачыць, даўно ўжо не свяцілі мне яго добрыя вочы. Сустракацца давялося пазней, у Маскве, а як пачалася вайна, жыў каля іх амаль месяц. Пра гэта расказвалася ўжо ў іншых маіх успамінах.

Пабыўшы пад Сталінградам, я вярнуўся ў Маскву. Неўзабаве багата беларусаў,—пісьменнікаў, міністраў без міністэрстваў, сакратароў без абкомаў,—з іншых маскоўскіх гасцініц пассельвалі ў «Якар». Маўляў, будзьце бліжэй да беларускага вакзала, вось-вось дамоў паедзеце. Гасцяваць там было цікава і ўцешна: ішло збіранне сіл, арганізоўваліся часопісы і выдавецтвы, былі заўсёды свежыя навіны, а галоўнае—цёплыя людзі: адзін з партызанаў, другі ў партызаны, той з фронту, гэты на фронт.

Сядзелі ўтрох з Гурскім і Глебкам. Раптам прачыніліся дзверы і пачуўся вельмі знаёмы голас:

— Хлопцы, бульба зварылася, — паклікала Уладзіслава Францаўна. — О, і Лужанін ужо тут! Пайшлі, пайшлі...

Яна жыла на тым самым паверсе, разам з ёю — Алеся Александровіч, жанчына вялікай душэўнай цеплыні, першая беларуская оперная салістка ў першай беларускай оперы «На Купалле». За сопкай бульбай удосыць нагаварыліся. Цёця Уладзя жыла клопатам аб купалаўскім музеі, Алеся Іванаўна ўжо рыхтавала матэрыялы для падручнікаў, якія саслужылі доўгую і добрую службу. Яна адразу запатрабавала вершаў для чытанкі. Мы былі знаёмыя з 30-х гадоў, яна вяла ў выдавецтве літаратуру для дзяцей, і ўгаварыла перакласці Маякоўскага, нават напісаць сваё. Ад пісання таго не засталося і следу.

— Ну, хлопцы, перагаварылі добра, — сказала на развітанне Цёця Уладзя, — як бычцам дома пабылі. І ты, камендант, — гэта да мяне, я служыў у камендатуры горада, — не цурайся, забягай. Каб не забыўся, чым бульба пахне.

Арганізуючы музей Янкі Купалы і будучы яго дырэктарам, яна няўпынна дбала, каб хоць з-пад зямлі дастаць кніжку паэта, яго аўтограф, фота, адным чынам — нешта для экспазіцыі.

Першая справа — памяшканне. У разбураным дашчэнту Мінску з асцярогай аднаўлялі адзіночныя ацалелыя «каробкі», недагарэлыя касцякі будынкаў, а каб новыя будаваць і гаворкі амаль не было, больш вывозілі патрушчаныя кавалкі муроў, пабітую цэглу, рыхтавалі пляцоўкі пад будаўніцтва.

Дзе і як пасяліць музей? Цёці Уладзі прапанавалі аднавіць касцяк колішняй лазні насупраць *папялішча* Купалавага дома. Такой абразы яна не магла стрываць. Спачатку плакала, жалілася кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў, сябрам, добрым знаёмым. Пасля перайшла ў наступленне, пераконвала, а калі не дапамагала, лаяла ўсіх чыноўнікаў *ад культуры*, і яны пры яе набліжэнні паспешна пакідалі кабінеты, хаваліся, пакуль не мінецца небяспека. А што яны маглі зрабіць, сказаць слова «за» ці памагчы — страшна, становішча сапраўды было няскрутнае. І Цёця Уладзя кінулася да П. К. Панамарэнкі. Той, як заўсёды ў час роздуму, пакрышыў, па сталінскай модзе, папяросу «Герцагавіна флор» у люльку. І згадзіўся. І даў каманду — адрываць для музея колькі можна ад мільёна, які выдаткоўваўся штодзень на аднаўленне горада.А пакуль — адзін ці два пакойчыкі ў доме прафсаюзаў. З часам музей перавандраваў у домік на вуліцы Энгельса, а потым перабраўся ўжо ў свой цяперашні дом.

Часовае прыпынішча ў Доме прафсаюзаў нагадвала казарму, цяжка было даводзіць яго да ладу, прыстасоўваць для размяшчэння экспазіцыі. І працаваць — няма каму. Як

на тое, у намеснікі сабе Цёця Уладзя выбрала Валянціна Таўлая. Хоць жыло ў ім гарачае сэрца паэта і кемнасць падпольшчыка, цяжка ўявіць істоту больш бездапаможную і непрыдатную для выканання гаспадарчых і адміністрацыйных абавязкаў. Асабліва ў той аднаўленчы час, калі цвік, дошку, мех вапны трэба было не даставаць, а літаральна выбіваць.

І ўсё гэта з добрай усмешкай, даўшы заданне намесніку, рабіла сама.

Агульны наш знаёмы, франтавік, у недалёкім мінулым артыст І. М. Жыжаль, ніколі не адмаўляў ёй і не чыніў перашкод. Навучаны папярэднімі спрэчкамі і скаргамі, ён, выслухаўшы патрабаванне, здымаў трубку і па чарзе гаварыў загадчыкам складаў падкрэслена афіцыйна:

— Слухай, да цябе прыедзе таварыш Луцэвіч, дырэктар музея Янкі Купалы, яго жонка, дык ты дай ёй таго-сяго. Колькі? Колькі яна пажадае.

Абяззброеная Цёця Уладзя дзякавала і ехала ці пасылала каго ў названае месца. А там, таксама навучаныя горкім вопытам нястач і папярэджаныя, што Цёці Уладзі нельга адмаўляць, гаварылі:

— Дзесяць кіло цвікоў? Толькі чвэрць кіло. Чатыры кубаметры дошчак? Магу ўсяго чвэрць кубаметра. Дваццаць кіло пабелкі? Дам пяць. Мала? Ведаю, што мала. Але ўсім трэба. На тыдзень хопіць, а праз дзень-два нам падкінуць, і мы вам дабавім.

Гэтыя «Халібэртавы пакуты» маляваліся Цёцяй Уладзяй з нязменнай зычлівасцю і нязлосна высмейваліся.

У пошуках музейных матэрыялаў, на выступленні і ўрачыстасці кшталтам адкрыцця памятных дошак Уладзіслава Францаўна выязджала даволі часта, клікнуўшы з сабою ў дарогу двух-трох пісьменнікаў.

У Барысаве выступалі на параходзе «Янка Купала», які толькі што пачаў свае рэйсы. На ім, як высветлілася пазней, працаваў малады Барысевіч, які яшчэ не марыў стаць прэзідэнтам Акадэміі навук БССР. Людзей было няшмат, але ўважлівасць надзвычайная, здавалася, слухаючы словы Купалы і пра Купалу, яны прымаюць і ўдвая павялічаную адказнасць за спраўны ход свае судзіны. Сярод усіх іншых уражанняў найбольшае — знаёмства з Марыяй Осіпавай, Героем Савецкага Саюза, якая нас прытуліла і была вельмі рупнай гаспадыняй. Потым напісаўся верш «На параходзе «Янка Купала», яго, не магу стрымаць рукі, каб не пахваліцца, упадабаў пад час мінскіх гасцін А. Твардоўскі.

Паўстае перад вачыма Ленінград. Белыя ночы навылёт прагульвалі малады Мікола Аўрамчык, які падружыўся з маладым Леанідам Хауставым. А потым Цёця Уладзя вяла нас на сустрэчу з незабыўным Аляксандрам Пракоф'евым, мілай Марыяй Камісаравай, строгім на выгляд Мікалаем Браунам. Колькі вершаў было прачытана, колькі песень праспявана з абодвух бакоў!

Уладзіслава Францаўна вельмі любіла песню. Моцна падабала сіманаўскую — пра ваенных карэспандэнтаў, на бяседах заўсёды міргала вачыма па-змоўніцку: «Давай, пачынай «Ад Масквы да Брэста...» І запявала сваю ўлюбёную:

**Ой, чуць, маці, чуць,**
**Дзе малойцы п'юць.**
**Вясёлая тая вулачка,**
**Кудой яны йдуць...**

Скончыўшы справы, Уладзіслава Францаўна адпусціла нас з Міколам, а сама засталася ў Ленінградзе на раздабыткі, як яна казала. І не без поспеху — адкупіла матэрыялы ў аднаго прайдзісвета ад крытыкі. А вярнуўшыся, мне падаравала адну з ранніх маіх кніжак, падпісаўшы: «Украдзена ў Бэнды».

У Вільнюс мы ехалі павольна, шафёр Іван Сямёнавіч не дазваляў стрэлцы спідометра перабірацца за лічбу «45». Рабілі папаску, збіралі грыбы, перакусвалі — без прыпасу гэта руплівая гаспадыня ў дарогу не выязджала. У Вільнюсе, наведаўшы Саюз пісьменнікаў і міністэрства, з поспехам дамовілася пра ўстаноўку мемарыяльнай дошкі і пра іншыя захады для ўшанавання памяці Янкі Купалы.

Пабылі ў майстэрні Пятра Сергіевіча, яго карціны меліся перайсці ў музей, і разам з мастаком паехалі «на бульбу» да вернай Цётчынай сяброўкі Марыські, разумнай і адукаванай жанчыны, якая пераехала сюды з Мінска. Тут упершыню пачуў з першых вуснаў расказ пра яе бацькоў — маці была француженка і не навучылася нашай мове. Пра знаёмства з Купалам, сябраванне з Косткай, так называлася Канстанцыя Буйло, пра першыя крокі «Нашай Нівы». Прыпомніўся горкі лёс Сяргея Палуяна, Фабіяна Шантыра.

Так кожны раз пасля гаворкі, кароткай ці працяглай, адыходзіў я з адчуваннем, што нечага прыбыло ў душы, нешта пасвятлела, ад чагосьці зрабілася лягчэй. Аднойчы дзякуючы Уладзіславе Францаўне мне давялося выслухаць, як рыхтавалі і здзейснілі падзею, якая ўвайшла ў гісторыю партызанскага руху. Прычым расказала адна з удзельніц гераічнага ўчынку.

Пачалося ўсё даволі смешна. На вакзале, адкуль цягнік павёз маю жонку, Цёця Уладзя благаславіла не вельмі далікатным слоўцам мужа свае пляменніцы, які спазніўся на цягнік, і перад хвастом апошняга вагона даволі фарсіста абвясціў: «Цётачка! Вось і я!» Крыху ахаладаўшы, яна кіўнула мне і Марыі Барысаўне Осіпавай, якая таксама некага праводзіла:

— Пайшлі абедаць. Цябе (гэта мне. — **М. Л.**) няма каму карміць — Жэня паехала. — І да вінаватага: — І ты, кавалерчык, прыходзь. Толькі білет адзнач.

Маё аднекванне Цёця Уладзя перабіла:

— А патраўка?

Супроць гэтага ўстаяць было нельга. Патраўка — страва жыхароў неба. Гэты мучны соус з цялячых хрaшчоў ці мясных костачак. Яе варыла мая маці, а цяпер можна было пасмакаваць толькі ў жонкі Купалы. У кватэры на Омскім завулку нас сустрэла цёця Маня, адазваўшыся вельмі падобным да Купалавага голасам: гэта была сястра Марыя Дамінікаўна. Да прастуды, як высветлілася, у яе далучылася яшчэ адна бяда: паблытала пакецікі з лекамі і прыняла англійскай солі.

Аднак стол быў накрыты, патраўка ўдалася. І вось тады пад шчаслівую для мяне часіну Марыя Барысаўна разгаварылася. Пачала расказваць, як настаўнічала да вайны, як апынулася і засталася пад акупацыяй. Немцы занялі кватэру, давялося туліцца ў сенечках. Мыла ім бялізну, чысціла і прасавала адзенне. І аднойчы, калі няпрошаныя госці вярнуліся моцна падгуляўшы, выцягнула ў аднаго з кабуры пісталет. Прачнуўшыся, ваякі завойкалі, абшукалі ўсе закуткі, пісталет не знайшоўся. Вырашылі — згубіў дарогаю, падаў жа, свіння, колькі разоў. Марыю Барысаўну падазрэннем не зачапілі — здавалася вельмі ціхай і стараннай. А яна ўжо мела трывалыя сувязі з партызанамі. Мала таго, была ўключана ў лік асоб, каму даручалася знішчыць гаўляйтэра Кубэ.

У Маскве першыя часы аб яго забойстве гаварылі амаль пошапкі: тры жанчыны падклалі міну ў ложак і ўсё. Ні прозвішчаў, ні падрабязнасцей праз асцярогу не перадавалі.

А тут перад намі сядзела адна з гераінь і ўзнаўляла карціну за карцінай: як міну прынесла, перадала яе, чакала ў скверыку сяброўку, як выходзілі ў партызанскую зону.

Цяпер пра ўсё гэта многа панапісвана і вядома з вуснаў саміх удзельнікаў падзеі. А тады сядзеў, знерухомеўшы, а пасля хадзіў па тых вуліцах і дарогах і перажываў тое самае, што і выканаўцы, арганізатары і тыя, хто ім дапамагаў.

Мусіць, так яскрава маляваліся тыя дні і ночы, што Марыя Барысаўна не ўспаміннала, а наноў перажывала некалі перажытае. А за ёй і слухачы, толькі мы з цёцяй Маняй перажывалі, баючыся паварушыцца, а Уладзіслава Францаўна не магла ўседзець на крэсле, то падымалася, то пераходзіла на канапу, круціла галавою, змушала паўтараць сказанае. Нарэшце спытала:

— А мяне вы ўзялі б у памочніцы?

Осіпава, не думаючы, цвёрда адказала:

— Не. Вы маглі б і не ўцярпець і, скажам, прыйсці на яўку на колькі хвілін раней. А такія справы вымагаюць цярплівасці.

Такая характарыстыка была ў многім справядлівая. Наўрад ці гэта была звычайная нецярплівасць, хутчэй за ўсё — імкненне як мага хутчэй дзейнічаць, каб прыспешыць канец работы, зборы ў дарогу ці што іншае. Адна справа ў Цёці Уладзі заўсёды набягала на другую, а то і на трэцюю, усе яны рабіліся разам, аднак, не штурхаючы адна адну, атрымлівалі завяршэнне. І не будзь яна такой няўрымслівай, не так хутка збудаваўся б музей, не назбіралася б столькі аўтографаў, не выдалася б столькі памятных зборнікаў і збораў твораў паэта.

Сваім одумам, адразу, яна нічога не пачынала. Раілася з тымі, чыё слова мела вагу, з тымі, хто мог параіць, каму давярала. Часта чуўся тэлефонны званок і да мяне:

— Лужанін, я да вас еду. Толькі ты сабаку прывяжы, я яго баюся.

Да мяне яна звярталася ўсяляк: у юнацкія гады па імені і «на ты», цяпер жа як калі: «на ты» і «на вы», і нават «дзядзька Максім». Зварот па прозвішчу і «на ты» азначаў, што яна ў добрым настроі: удалося нешта зрабіць ці здабыць цікавы экспанат. А просьба прывязаць сабаку дадавалася для жарту. Аднойчы наш Дзік, верны і сумленны прыяцель, затрывожыўся: Цёця Уладзя нешта расказвала і, як звычайна, размахвала рукамі. Сабака збаяўся, каб з гэтага не выйшла якой шкоды гаспадарам, лёгенька ўзяў у пашчу Цётчыну руку і змусіў апусціць уніз. Выпадак не забыўся і стаў за навуку ўсім іншым гасцям.

У нашай халоднай кватэры на Палярнай вуліцы Уладзіславе Францаўне падабалася. Ды клопату было шмат: музей, выдавецкія справы, чарговая кніга ўспамінаў пра Купалу, публікацыі і справаздачы для акадэміі. Пра ўсё хацела памеркаваць, калі трэба, паправіць што. Некалькі разоў спрабавала дыктаваць успаміны, на жаль, на гэта ў яе заўсёды бракавала часу. Шкада, яна шмат помніла і ведала. Засталося ўсяго некалькі ўрывачных запісаў. І адзін пра Гаруна:

«І не слухай розных плётак. Разумны, душэўны быў і ніякі не вораг. А што вітаў некага — глупства, кожны можа пакаўзнуцца. Ды Пілсудскі ўмеў падлабуніцца: па-беларуску гаварыў, родным братам прыкідваўся. А што Прушынскаму нейкае званне далі, палкоўніка ці падпалкоўніка, дык гэта каб лепшы паёк атрымліваў. Ён жа ад сухотаў паміраў, нікуды не выходзіў, ляжаў у Курасоўшчыне. Вось і ўсе яго ваяцкія справы».

Дом у Курасоўшчыне — двухпавярховы з чырвонай цэглы будынак — яна паспела паказаць, будучы на сельскагаспадарчай выстаўцы ў Курасоўшчыне. Той дом і цяпер стаіць. І дом Цёці Уладзі на Омскім завулку. Нічым не адзначаны. І заўсёды перад вачыма Гаспадыня. Не тая, на чый змучаны хваробамі твар глядзеў у жалобным купалаўскім тэатры, а ўся ў руху, поўная задум, імкненняў, багатая на душэўнае і вясёлае слова. Жывая.

# ВОЛАТ

## Памяці Г. І. Гарэцкага

Адышоў у Вечнасць Чалавек, надзіва цэласны, гарманічны і надзіва шматгранны. Акадэмік Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі пакінуў вялікі след, уласную школу найперш у геалогіі, ён стаў заснавальнікам савецкай палеапатамалогіі — навукі аб гісторыі рэк і рачных далін. Яго фундаментальныя манаграфіі, прысвечаныя пра-Волзе, пра-Дняпру і іншым прарэкам, былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. Ён узначальваў савецкую секцыю Міжнароднага саюза па вывучэнню чацвярцічнага перыяду, у які на зямлі стала праяўляцца дзейнасць чалавека. Аднак Гаўрыла Іванавіч многа зрабіў таксама для развіцця беларускай эканамічнай, дэмаграфічнай, сельскагаспадарчай навукі. Малодшы брат класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, ён сам быў надзелены пісьменніцкім талентам, паэтычнай душой. Пра гэта сведчаць яго артыкулы і ўспаміны, прысвечаныя Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, Максіму Горкаму, Леаніле Чарняўскай. Равеснік веку, ён яшчэ ў 1914 годзе пасылаў карэспандэнцыі з роднай «Амсціслаўшчыны» ў «Нашу Ніву». Потым, у 1917—1919 гадах, друкаваўся у «Вольнай Беларусі» і «Дзянніцы». Разам з братам падрыхтаваў і выдаў беларуска-рускі слоўнік. Гаўрыла Іванавіч выдатна ведаў і горача любіў родную літаратуру. Выхоўваў такую любоў ва ўсіх, хто яго акаляў. Яго нязменна, часцей за іншых пісьменнікаў, можна было бачыць на літаратурных і музычных вечарах. А як захапляюча ўмеў ён расказваць пра мінулыя падзеі, гераічныя і трагічныя, пра сустрэчы з людзьмі, якія стаялі ля вытокаў Беларускай Савецкай Рэспублікі. Яго развагі, на, здавалася б, спецыфічную навуковую тэму—дзе пралягалі мільёны гадоў назад пра-Нёман і пра-Дняпро,—гучалі, як узнёслая паэма.

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі — гэта цэлая эпоха ў беларускай навуцы і культуры. Ён быў адным з заснавальнікаў нацыянальнай Акадэміі навук. Яго манаграфія «Народны прыбытак Беларусі», выдадзеная ў 1926 годзе, і сёння мае вялікую актуальнасць, асабліва ў сувязі з пераходам рэспублікі на гаспадарчы разлік. Яго выступленні ў 1927—1930 гадах у ЦВК БССР і сёння здзіўляюць сваёй глыбінёй і прынцыповасцю. Ён добра ўсведамляў, што такое адказнасць перад часам, змена пакаленняў, і таму рыхтаваў сабе пераемнікаў, у тым ліку з уласных сыноў. Ён умеў адшукваць студэнтаў з учарашніх вяскоўцаў, якія потым прыходзілі ў ягоныя інстытут і аддзел, станавіліся дактарамі навук.

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі беспералынна даваў усім тым, хто яго ведаў, павучальныя ўрокі. Найперш гэта былі ўрокі чалавечай дабрыні. Кожны рабочы дзень пачынаўся ў яго з таго, што ён абыходзіў сваіх падначаленых і пытаўся, ці ўсё добра ў іх дома, у сям'і. У кожнага супрацоўніка ён імкнуўся знайсці нешта добрае і перспектыўнае, кожнаму даваў права на ўласную, няхай і спрэчную, думку. Потым гэта былі ўрокі вялікай пашаны да роднай культуры і роднай мовы. Ён прынцыпова і заўсёды, нават у іншых рэспубліках, гаварыў па-беларуску. І яго разумелі, яго за гэта паважалі. У яго калектыве па-беларуску пісаліся навуковыя працы — і нічога, разыходзіліся, чыталіся, цытаваліся і рэцэнзаваліся за мяжой. Пра важнасць гэтых урокаў, пра тое, што яны яшчэ намі слаба засвоены, гаварылі на жалобнай паніхідзе геолагі і географы, гаварыў Янка Брыль.

Сваім доўгім і працавітым жыццём Гаўрыла Іванавіч даказаў, як многа можа адзін чалавек. Адкрыць новы навуковы напрамак. Не надламацца ад незаслужаных абвінавачванняў. Перагварыць у гады стваральнай працы гады цяжкіх сталінскіх рэпрэсій. Выхаваць у цэлага калектыву грамадзянскія і патрыятычныя пачуцці. Мусіць, таму аблічча Гаўрылы Іванавіча засталося спакойным нават пасля адыходу ў небыццё, засталося спакойным і велічным. Бо з годнасцю здзейсніў ён усё тое, што было наканавана нялёгкім лёсам, бо моцна трымаўся ён свайго народа і сваёй зямлі.

Адам МАЛЬДЗІС.

Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці выдатнага савецкага вучонага, акадэміка Гарэцкага Гаўрылы Іванавіча, брата пісьменніка Максіма Гарэцкага, і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### ВЫДАДЗЕНА Ў ФІНЛЯНДЫІ

«Бяздушнасць і жорсткасць вайны вачамі жанчыны. Дзесяць хвалюючых гісторый жанчын, чые мары і жыцці былі разбіты вайной», — так прадстаўляе чытачам Фінляндыі кнігу Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» часопіс «Мааілма я мэ» («Свет і мы»), які выдае ў Хельсінкі таварыства фінска-савецкай дружбы.

Я. ЛАПАТКА.

### «БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ»

Пад такой назвай другім перапрацаваным і дапоўненым выданнем выйшаў з друку даведнік, падрыхтаваны Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна і выпушчаны выдавецтвам «Полымя».

У выданні змешчаны звесткі аб універсальных рэспубліканскіх і абласных кнігасховішчах (з фондамі не менш за 10 тысяч уліковых адзінак), аб масавых сістэмах Міністэрства культуры БССР, ВНУ, прафсаюзных і іншых бібліятэках. У даведніку чытач знойдзе адрас кожнай бібліятэкі і яе тэлефоны, даведаецца пра гадзіны работы, колькасць кніг, наяўнасць чытальных залаў і індывідуальнага абанемента. Аб рэспубліканскіх і абласных бібліятэках даюцца больш падрабязныя звесткі.

М. РОЗУМ.

### ПУЛЬС АБ'ЯДНАННЯ

Актывізавалася дзейнасць літаратурна - музычнага аб'яднання пры рагачоўскай раённай газеце «Камунар», якое ўзначальвае пісьменнік Мікола Янчанка. Члены аб'яднання наладжваюць сустрэчы ў працоўных калектывах, дзе абмяркоўваюць надзённыя пытанні развіцця роднай мовы і літаратуры, вывучэння гісторыі роднага краю, выхавання людзей на слаўных баявых і працоўных традыцыях.

Нядаўна адбылася сустрэча з работнікамі завода «Дыяпраектар». Прыйшлі сюды сапраўдныя аматары беларускага слова, паэзіі, музыкі. З новымі творамі выступілі М. Янчанка, А. Драбышэўская, Н. Пінчук, В. Паўлаў, М. Сліва. Пад акампанемент гітары самадзейны кампазітар Ю. Арэстаў выканаў песні на свае вершы і вершы М. Янчанкі.

М. КАВАЛЁЎ.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Савіцкаму з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата.

Рэдакцыя часопіса «Полымя» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела публіцыстыкі Анатолю Іванавічу Сілянкову з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры.

